# ПОДЫХ НА



Плённым аказаўся зварот беларускіх кінематаграфістаў да эпічных твораў Івана Мележа. На XV Усесаюзным кінафестывалі ў Таліне фільм «Людзі на балоце», створаны па аднайменнаму раману І. Мележа, быў удастоен галоўнага прыза. Адзін з асноўных прызоў заваяваў ён і на XXIII Міжнародным кінафестывалі ў Карлавых Варах.

Цяпер на экран выходзіць новая значная работа «Беларусьфільма» — каляровая двухсерыйная мастацкая кінакарціна «Подых навальніцы». Гэта экранізацыя другога рамана з «Палескай хронікі» пісьменніка. За яе стварэнне Іван Паўлавіч Мележ быў удастоен Ленінскай прэміі і звання народнага пісьменніка рэспублікі. Бадай, нікому з беларускіх пісьменнікаў, якія закраналі тэму «вялікага пералому», не ўдалося з такой глыбінёй і пранікнёнасцю раскázаць аб беларускай вёсцы ў складаны гістарычны перыяд калектывізацыі.

Абодва раманы «Хронікі» — «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» — складаюць адзіны эпічны твор, у якім праз лёс жыхароў згубленай у балотах невялікай вёскі Курані даецца абагулены малюнак жыцця беларускага сялянства ў 30-я гады. І рэжысёр Віктар Тураў беражліва і дакладна перанёс на экран свет думак і вобразаў мележаўскай прозы, ярка паказаў псіхалагічна цяжкі для куранёўцаў пераход ад спрадвечнага, заведзенага прадзедамі аднаасобнага ўкладу жыцця да калектыўнага.

...Цяжка Ганне — не склалася жыццё, пякельным болем аддаюцца ў сэрцы ўспаміны пра кампраміс, на які рызыкнула пайсці насуперак свайму сумленню. Цяжка Васілю — усім сэрцам улюбёны ў зямлю, у сціплую сваю гаспадарку, не ўяўляе ён, як расстацца з нажытым дабром дзеля неакрэсленага будучага. Мітусіцца Ганна, мітусіцца Васіль, якія здрадзілі некалі свайму чыстаму каханню адзін да аднаго, не ведаюць, як жыць далей. Нібы ў ліхаманцы, кідаецца ўся вёска Курані, перад якой паўстала неабходнасць мяняць спрадвечны ўклад жыцця.

«Подых навальніцы» — твор поліфанічны. Лёс жыхароў невялікай палескай вёскі, згубленай у непраходных балотах,— Васіля, Ганны, Яўхіма Глушака, Хадоські, якая расчаравалася ў жыцці, актывіста Міканора, шчырага парывістага Хоні, старых, чыё жыццё поўнасцю аддадзена Куранням,— складваецца ў абагулены малюнак драматычнага лёсу беларускага сялянства 30-х гадоў. Усіх герояў фільма родніць пакутлівы роздум пра тое новае, што прыходзіць у іх жыццё.

Другая частка кінаэпапеі вызначаецца большай драматычнасцю. У той жа час эпічная велічнасць «Людзей на балоце» змяняецца ў фільме «Подых на-

# ВАЛЬНІЦЫ



вальніцы» строгасцю, аўтарскай самаабмежаванасцю ў выбары выяўленчых сродкаў.

Нават пейзаж, які займае вельмі многа месца і быў у «Людзях на балоце» ледзь не самастойнай дзеючай асобай, тут падпарадкаван хуткаму ходу сюжэтных падзей, сутыкненню чалавечых пачуццяў, асабістых драм, якія выносяцца на першы план. Праз прыватны лёс галоўных герояў — Ганны і Васіля, кулацкай сям'і Глушакоў, камуніста Міканора, Хадоські, камсамольца Харытона і іх аднавяскоўцаў,— праз мікрасвет старажытнай палескай вёскі Курані паўстае на экране ва ўсёй сваёй маштабнасці вялікі гістарычны працэс пераходу да калектыўнага жыцця.

Паварот да новага жыцця для многіх з іх праходзіць не гладка, суправаджаецца жорсткімі канфліктамі і сумненнямі. Але мацнее ў людзях, якіх вядуць камуністы, надзея на лепшае жыццё, усё больш пераконваюцца яны, што здабыць яго можна толькі разам, адным калектывам. Гэта галоўнае, пра што расказалі раман і фільм, пранікнутыя вялікай любоўю да народа.

У сваёй рабоце кінематаграфісты імкнуліся да таго, каб максімальна наблізіцца да стыхіі жыцця, гэтак паўнагучна і паўнакроўна ўзноўленай у рамане — лепшым, як лічыў сам Мележ, з усяго ім напісанага.

Галоўныя ролі ў фільме выконваюць Алена Барзова, Юрый Казючыц, Барыс Няўзораў, Аляксандр Мароз, Генадзь Гарбук, Вольга Лысенка, Святлана Кузьміна, Павел Кармунін, Надзея Бутырцава, Юрый Гарабец, Лілія Давідовіч, Марына Якаўлева, Віктар Шульгін, Таццяна Мархель, Людміла Пісарава і іншыя.

## ДЫХАНИЕ ГРОЗЫ

На XV Всесоюзном кинофестивале в Таллине фильм «Люди на болоте», созданный по одноименному роману И. Мележа, был удостоен главного приза. Один из основных призов завоевал он и на XXIII Международном кинофестивале в Карловых Варах.

Теперь на экраны республики выходит новая работа «Беларусьфильма» — двухсерийная кинокартина «Дыхание грозы». Это экранизация второго романа из «Полесской хроники» писателя. За ее создание Иван Павлович Мележ был удостоен Ленинской премии и звания народного писателя республики.

Судьбы жителей небольшого полесского села, затерявшегося в непроходимых болотах, складываются в фильме в обобщенную картину драматической судьбы белорусского крестьянства 30-х годов.

Акцёры новых фільмаў

## АЛЕНА БАРЗОВА

На XV Усесаюзным кінафестывалі ў Таліне прыз за лепшае выкананне жаночай ролі быў прысуджан маладой актрысе Алене Барзовай. Гэта была роля Ганны ў фільме «Людзі на балоце» — першая яе маштабная кінаработа.

Яшчэ да паступлення ў школу-студыю МХАТа, якую Алена Барзова — цяпер актрыса Маскоўскага новага драмтэатра — скончыла ў 1979 годзе, яна знялася ў стужках «Пісьмо з юнацтва» і «Хлопчык і лось». Студэнткай выканала ролю ў «Спакушэнні». Няхай гэтыя работы не сталі падзеямі ў кінамастацтве, але для самой Алены яны былі, безумоўна, важныя — першыя пробы сваіх акцёрскіх магчымасцей, першае набліжэнне да спецыфікі кінематографа, першыя ўрокі майстэрства, накапленне вопыту.

Роля Ганны ў «Людзях на балоце» з'явілася для яе і падарункам лёсу, і вельмі сур'ёзным выпрабаваннем. Працаваць з Віктарам Туравым — вопытным, таленавітым рэжысёрам, які прайшоў школу Аляксандра Даўжэнкі,— пачынаючай актрысе аб гэтым можна было толькі марыць. Праўда, спачатку Алене была прапанавана іншая роля. Але пробы паказалі: быць ёй Ганнай. Той юнай, цудоўнай, простай і душэўна багатай Ганнай, якую напісаў Іван Мележ і з якой мы сустрэліся ў фільме.



Ганна — арт. Алена Барзова.

І ў той жа час як няпроста было карэннай масквічцы, якая была знаёма з сельскім жыццём толькі здалёку, пранікнуць у свет сваёй гераіні, своеасаблівы ўклад палескай вёскі першых гадоў Савецкай улады. Якія намаганні сэрца і таленту спатрэбіліся, каб рэальна адчуць сябе беларускай сялянкай, пражыць на экране яе цяжкае жыццё, хадзіць, разважаць, думаць, адчуваць, як яна. З ёю радавацца. З ёю адчайна гараваць. З ёю біцца за сваё шчасце.

Арганічнасці экраннага жыцця персанажаў садзейнічала і рэжысёрская манера Віктара Турава. У прыватнасці, яго імкненне здымаць буйнымі кавалкамі, не разрываючы эпізод на кароткія сцэны. Алене Барзовай гэта вельмі дапамагло.

Але поспех яе работы ў фільме не толькі ў натуральнасці акцёрскага пераўвасаблення. Ганна, думаецца,— не проста праўдзіва ўзноўленая індывідуальнасць. Гэта вобраз, у якім актрыса імкнулася ўвасобіць лёс народа, яго боль, веліч, прыгажосць.

— Алена, што для вас самой было галоўным у фільме?

— Мне хацелася сваёй роляй сказаць, што вялікае каханне — бясцэнны і не такі ўжо часты падарунак, і таму трэба старацца захаваць яго.

— У Беларусі няма, напэўна, чалавека, які не ведаў бы «Палескай хронікі» І. Мележа. Як сустрэлі землякі герояў кінафільма?

— Перш чым пазнаёміць мяне са сцэнарыем, рэжысёр Віктар Цімафеевіч Тураў прывёз нас у вёску Валова Гара, дзе павінны былі весціся здымкі. І, сабраўшы сялян, сказаў ім, што, маўляў, маладая актрыса, якая стаіць перад вамі і якой трэба стварыць вобраз Ганны, не ведае сялянскага жыцця, добра было б яе вясковай працы навучыць. Мяне адразу ж пачалі называць Ганнай, ахвотна вучылі працаваць у полі, з гаспадаркай ўпраўляцца, песні спяваць старадаўнія, нават лапці плесці. І я неўзабаве так ужылася ў вясковы побыт, што і гаворку тутэйшую засвоіла.

У нашай здымачнай групе была традыцыя: перш чым пачынаць работу над роляй, кожны акцёр павінен пабываць у той самай палескай вёсцы Курані, аб якой ідзе гаворка ў рамане і, натуральна, у фільме. Мне запомніўся адзін цікавы выпадак. Маскоўскія акцёры Бора Няўзораў і Юра Казючыц паехалі ў Курані. Прыехалі, людзі выйшлі ім насустрач. Акцёры прадставіліся: «Мы будзем цяпер Яўхім і Васіль». І раптам да іх падыходзяць двое старых і кажуць: «А мы — тыя самыя Васіль і Міканор. Гэта пра нас у кнізе напісана!»

— Так шчыра сыграць Ганну, відаць, можна было, толькі адчуўшы душэўную блізкасць з ёй?

— Вядома! Для мяне Ганна сапраўды стала дарагім чалавекам, увасабленнем усяго светлага і цудоўнага ў беларускім народзе.

## МАРЫНА ЯКАЎЛЕВА

У нашай літаратуры, ды і ва ўжытку ёсць выраз: сібірскі характар. Калі так гавораць аб чалавеку, мы адразу разумеем, што гэты чалавек працавіты, настойлівы, цвёрды ў дасягненні мэты. Марына Якаўлева — карэнная сібірачка. Кволая, пяшчотная знешне, яна ўнутрана іменна такая — працавітая, настойлівасці і мэтанакіраванасці ёй не пазычаць.

Вядомы савецкі кінарэжысёр Юрый Паўлавіч Ягораў, якога Марына лічыць сваім «хросным бацькам» у кіно, аднойчы сказаў, што як актрыса Марына Якаўлева з мноства яе равесніц вылучаецца своеасаблівасцю. Упэўнен, падкрэсліў рэжысёр, ніхто не ўмее так радасна працаваць, як Марына. Яна праяўляецца ў сваіх ролях не толькі як добрая актрыса, але і як добры, разумны, творчы чалавек.

— Як атрымалася, што пасля заканчэння Інстытута тэатральнага мастацтва вы сталі артысткай кіно?

— Тэатр для мяне дарагі, і першае сапраўднае ўзрушэнне я адчула, калі паглядзела «Чалавека з Ламанчы» ў тэатры імя У. Маякоўскага з Таццянай Даронінай. Але выхавана я была на кіно і на тэлевізійных перадачах. У горадзе Зіма, а потым у Шэлехаве Іркуцкай вобласці, дзе прайшло маё жыццё да атрымання атэстата сталасці, быў толькі невялікі кінатэатр ды тэлевізар дома. Раз у год прыязджалі да нас прафесіяналы з Уладзівастока, але... натхнення не прывозілі.

— Напэўна, вы былі ўдзельніцай школьнага драмгуртка?

— Не, да сёмага класа пра сцэну і не думала. У старэйшых класах вучні пачалі заўважаць, што я ўдала капірую вядомых артыстаў кіно, Дароніну з «Трох таполяў» на Плюшчысе», напрыклад. Кажуць, атрымлівалася смешна.

— А што было потым?

— Напакавала чамадан кнігамі і прыехала ў Маскву. Ні родных, ні знаёмых... Пераначавала на вакзале. Потым лёс распарадзіўся так, што замест жаданага Інстытута кінематаграфіі я пачала здаваць экзамены ў Інстытут тэатральнага мастацтва. Выйшла перад экзаменацыйнай камісіяй з байкай С. Міхалкова «Дзве сяброўкі». Чытала яе «у асобах». І прынялі мяне ў інстытут.

— Студэнткай пачалі здымацца ў кіно?

— Адбылося гэта нечакана. На адзін з інстытуцкіх экзаменаў прыйшла асістэнт па акцёрах Марына Сцяпанаўна Арлова. Наогул я экзамены любіла. Зуброжкай не займалася, матэрыял засвойвала без асаблівых намаганняў. Адказваючы на пытанні білета, я ўваходзіла ў азарт, «загаралася» і мімаволі «запальвала» выкладчыка. У той раз здавала гісторыю КПСС. Атрымала пяцёрку. І... была запрошана на кінастудыю імя М. Горкага.



— Як праходзіла ваша работа ў кіно?

— Спачатку былі эпізоды ў фільмах «Вецер вандраванняў», «Тэрміновы выклік», «Узлёт». Потым пачала здымацца

ў вялікіх ролях — у фільмах «Сцэны з сямейнага жыцця», дзе я сыграла Кацю Мартынаву, «Мая Анфіса» (Верка), «Прылятаў марсіянін у асеннюю ноч» (Алёнка), «Корпус генерала Шубнікава» (Маша Гаўрылава), «Грамадзянін Лёшка» (Ларыса), «Вакансія» (Оленька), «Людзі на балоце» (Хадоська), «Шосты» (Лізавета), «Сярэбранае рэвю» (Алена Сайкова), «Сашка» (Зіна), «Цыганскае шчасце» (Варка).

— Што далі вам гэтыя работы як актрысе і чалавеку?

— Бясцэнны вопыт кінематографа, зносіны з калегамі на здымачнай пляцоўцы і зноў... экзамены. Персанажы часта аказваліся блізкімі мне, няцяжка было ўявіць іх лёс, учынкі здаваліся натуральнымі. Але аднастайнасць усё ж няплённая. Акцёр павінен пераўвасабляцца. У мастацтве неабходна адчуць супраціўленне матэрыялу, ісці «ад процілеглага», шукаць новае. Па характару я была сарамлівай, чырванела. Калі на мяне павышалі голас, я плакала, не ўмела пастаяць за сябе. Але вось пачала здымацца ў ролі гераіні «Сцэн з сямейнага жыцця». Мая Каця Мартынава — зусім іншы чалавек, максімалістка, падобраму ўпэўненая ў сабе. Пасля гэтага фільма, здаецца, сама пачала мяняцца.

— Марына, сярод вашых ваенных гераінь ёсць дзяўчаты адважныя, гатовыя на подзвіг. Што далі вам сустрэчы з імі, напрыклад, з медсястрой Машай?

— У першую чаргу ўзбагачэнне духоўнае, развіццё як асобы. Маша з карціны «Корпус генерала Шубнікава» — роля трагедыйная. Яна падзяляе з байцамі-танкістамі ўвесь цяжар паходнага жыцця ў тыле ворага, губляе каханага, якога замучылі гітлераўцы. Але вера ў перамогу, у будучае дапамагае ёй захаваць сілу духу. Рэальнасць, праўдзівасць чалавечага характару, жывы лёс, уменне процістаяць абставінам і ўсё гэта ў спалучэнні з глыбінёй, праўдзівасцю пачуццяў натхняе, дапамагае ўсведамляць сваю грамадзянскую адказнасць перад гледачамі.

— У нядаўнім фільме «Мяжа жаданняў» вы сыгралі галоўную гераіню Веру Анікіну, выхавацельніцу дзіцячага сада. Што з'явілася для вас «пунктам адліку»?

— Мая мама працуе медсястрой у дзіцячым садзе. Але не гэта, вядома, было для мяне адпраўным пунктам. Я лічу, што галоўнае не прафесія і не месца работы, а сам чалавек, яго ўнутраны свет, адносіны да справы. Рацыяналізм, халодны разлік сушаць душу, і мне хацелася б проціпаставіць гэтаму маю Веру з яе цвёрдай маральнай пазіцыяй.

— У якіх новых фільмах гледачы ўбачаць вас?

— У фільме Э. Гаўрылава «Тут твой фронт» іграю адну з галоўных гераінь, Зінаіду. Падзеі фільма прысвечаны гераічнай працы рабочых завода «Уралмаш» у гады вайны.

У экранізацыі рамана І. Ганчарова «Абрыў» (рэжысёр В. Венгераў, «Ленфільм») іграю Марфіньку. Па сутнасці, гэта мая першая роля з класікі. На «Беларусьфільме» сыграла Хадоську ў кінакарціне «Подых навальніцы» і эпізод у тэлефільме В. Шадурскага «Вадзіцель аўтобуса». А на Кіеўскай кінастудыі імя А. П. Даўжэнкі ў трохсерыйным тэлевізійным дэтэктыве «Пятля» (па раману А. Адамава, рэжысёр А. Гойда) здымаюся ў ролі Веры.



Патапаў — арт. Уладзімір Мяньшоў.
Уржумаў — арт. Кірыл Лаўроў.

# МАГІСТРАЛЬ

Так называецца каляровая мастацкая кінакарціна, створаная рэжысёрам Віктарам Трэгубовічам на кінастудыі «Ленфільм». У аснову яе сцэнарыя пакладзена аповесць Валерыя Барабашова «Гарачыя перагоны», якая расказвае пра адны суткі з жыцця буйнога чыгуначнага вузла. Магістраль становіцца сюжэтным стрыжнем, на якім сыходзяцца інтарэсы і лёс людзей, занятых у самых розных галінах гаспадаркі нашай краіны. Фільм узнімае праблемы, якія штомінутна ўзнікаюць у дыспетчарскай, у кабінеце начальніка вузла. Сваёй новай работай аўтары заклікаюць усіх і кожнага ў паасобку да адказнасці за даручаную справу.

На адным з грамадскіх праглядаў фільма «Магістраль» прысутнічаў пісьменнік Валерый Барабашоў.

— Першае і галоўнае ўражанне ад кінафільма,— сказаў ён,— карціна атрымалася вострапраблемнай, глядзіш яе з вялікай цікавасцю, хоць я, як аўтар аповесці, вядома ж, ведаў, што ў «Магістралі» здарыцца. Рэжысёр Віктар Трэгубовіч паставіў фільм дынамічна, падзеі развіваюцца хутка, напружана. Няма ў кінафільме, на мой погляд, ні аднаго кадра, які б не выклікаў цікавасці ў гледача, не абудзіў належнага суперажывання, думкі. Наогул, увесь фільм — гэта сумленны, грамадзянскі роздум яго аўтараў аб праблемах далёка не проста чыгуначных.

За час руху скорага поезда па Краснагорскай чыгунцы, а больш дакладна — нават па аднаму яе аддзяленню, адбываецца многа вельмі важных падзей, якія прама ці ўскосна робяць уплыў на будучае сутыкненне саставаў, у выніку якога гіне памочнік машыніста электравоза Санька. Аб адказнасці за тое, што здарылася на Краснагорскай чыгунцы, аб адказнасці за даручаную справу на ўсіх узроўнях, пачынаючы ад намесніка міністра шляхоў зносін і канчаючы дзяжурнай па станцыі, і гаворыцца з усёй грамадзянскай шчырасцю і страснасцю ў гэтым фільме.

— Ці захаван у фільме дух вашай аповесці! Якой вы думкі пра ігру акцёраў.

— Дазвольце мне адказаць спачатку на другое пытанне. Віктар Трэгубовіч сабраў у «Магістралі» выдатны творчы ансамбль. Тут справа нават не ў гучных імёнах — Кірыл Лаўроў, Усевалад Кузняцоў, Людміла Гурчанка, Уладзімір Гасцюхін, Сяргей Праханаў, Міхаіл Пагаржэльскі, Юрый Дземіч, Фёдар Адзінокаў... Справа ў іх выключна дакладнай ігры, у той нават знешняй адпаведнасці ролі, якая выклікае безумоўнае давер'е гледача. В. Трэгубовіч вельмі скрупулёзна, удумліва падышоў да падбору артыстаў, літаратурныя героі ў іх выкананні захаваны максімальна. Гэта асабіста для мяне факт не толькі прыемны.

Што ж датычыць духу аповесці... Так, ён захаван і ў сцэнарыі, і ў фільме. Вядома, не ўсё ўвайшло ў карціну, але асноўныя яе падзеі і героі захаваны. Больш таго, Віктар Трэгубовіч смела і справядліва развіў некаторыя сюжэтныя лініі, ад чаго фільм толькі выйграў.

Байчук — арт. Уладзімір Гасцюхін.



праблемы — перш за ўсё маральныя — загучалі з новай сілай, з вялікай вастрынёй. Гэта сведчыць аб глыбокім творчым прачытанні аповесці, з аднаго боку, яшчэ раз дэманструе вернасць вострасацыяльным праблемам вядомага савецкага рэжысёра, з другога. Мы ведаем В. Трэгубовіча па такіх фільмах як «Старыя сцены», «Зваротная сувязь». «Магістраль» працягвае прынцыповую размову рэжысёра з гледачом на гэту тэму.

— А як вы ацэньваеце работу аператара, мастака?

— Я не спецыяліст у гэтай галіне, але выкажу сваё ўспрыманне гледача. Фільм вельмі прыгожы, работа аператара Эдуарда Разоўскага выклікае пачуццё захаплення. Дастаткова сказаць аб здымках моманту сутыкнення скорага поезда з цыстэрнай — гэты эпізод уражвае сваёй праўдай і нагляднасцю. Або кадры ў кабіне электравоза, дзе машыніст Шылаў і яго памочнік (артысты Іван Агафонаў і Павел Семяніхін) здымаліся на поўным хаду поезда з прываранай перад кабінай пляцоўкі. Для гэтага патрэбна пэўная мужнасць.

Фарбы ў фільме сакавітыя, натуральныя, цудоўна падабраны інтэр'еры — усё прадумана адпаведна настрою кожнай сцэны, яе ўнутранай логіцы. Вельмі добра былі зроблены дэкарацыі. Я здзівіўся, калі даведаўся ад мастака фільма А. А. Рудзякова, што, напрыклад, кабінет Колабава (сцэна ў абкоме партыі) — дэкарацыя. Дарэчы, Аляксей Андрэевіч Рудзякоў — мой зямляк, родам ён з Барысаглебска.

Як бачым, аўтару аповесці, па якой пастаўлен фільм, работа кінематаграфістаў вельмі спадабалася. Цяпер слова за гледачамі.

Санька — арт. Павел Семяніхін, Людміла — арт. Марына Трэгубовіч.



**МАГИСТРАЛЬ**

**Кинокартина, снятая на «Ленфильме», рассказывает об одних сутках из жизни крупного железнодорожного узла. Магистраль становится сюжетным стержнем, на котором сходятся интересы и судьбы людей, занятых в самых разных областях хозяйства нашей страны. Фильм страстно призывает всех нас и каждого в отдельности к ответственности за порученное дело.**

## Стваральнікі новых фільмаў

# ВІКТАР ТРЭГУБОВІЧ

Тэму творчасці заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР Віктара Трэгубовіча можна вызначыць адным словам: чалавек. Іменна падрабязнае даследаванне чалавека, яго ўнутранага свету, яго ўзаемаадносін з навакольным светам — творчае крэда рэжысёра.

Трэгубовіч выбірае для пастаноўкі сцэнарыі, дзе з найбольшай паўнатой раскрываюцца чалавечыя характары, дзе чалавек пастаўлен у складаныя абставіны і вырашае складаныя праблемы. І не заўсёды важны нават маштаб гэтых праблем, важна, з якіх маральных пазіцый яны вырашаюцца героем. Сярод кінадраматургаў, з якімі працуе рэжысёр, мы сустракаем такія вядомыя імёны як пісьменнік Сяргей Антонаў (па яго сцэнарыю Трэгубовіч паставіў свой першы фільм «Спякотны ліпень»), Анатоль Грабнёў («Старыя сцены» і «Падарожжа ў іншы горад»), Аляксандр Гельман («Зваротная сувязь»), Віктар Мярэжка («Пакідаючы — пакідай»), Будзімір Мятальнікаў («Тройчы пра каханне»). Усё гэта майстры, якія зарэкамендавалі сябе веданнем жыцця і ўменнем адлюстроўваць яго ў сваіх творах.

Для ўвасаблення сваіх задум В. Трэгубовіч адбірае выканаўцаў, якія дакладна адпавядаюць выбранаму ім стылю. Трэба сказаць, што для кожнага новага фільма рэжысёр знаходзіць новую мастацкую форму, таму яго фільмы так не падобны адзін на адзін.

Часам выбар ім акцёра на ролю здзіўляе сваёй смеласцю і захапляе вынікам. Так было з Людмілай Гурчанка, якая сыграла ролю дырэктара фабрыкі Ганны Георгіеўны ў «Старых сценах». Здавалася, тэмперамент актрысы не зможа ўкласціся ў жорсткія рамкі строгага і, мабыць, нават сухога характару. Але вобраз, створаны Гурчанка, аказаўся такім паўнакроўным, праўдзівым, што прымусіў крытыкаў гаварыць аб новых гранях таленту выдатнай актрысы. І вось тая ж Л. Гурчанка — Вязнікава ў «Зваротнай сувязі». Ужо зусім іншы характар. Стомленая, надламаная, нервовая жанчына — але з якой глыбокай перакананасцю ў сваёй справядлівасці! Рэжысёр ведаў, што можа даверыць Гурчанка гэту ролю: ён ужо ўяўляў яе прафесіянальныя магчымасці.

Можна яшчэ прывесці прыклад з Кірылам Лаўровым у фільме «Давер'е». Хоць акцёр пачынаў ужо працаваць над вобразам У. І. Леніна ў тэатры, д管ручыць яму такую адказную і складаную ролю ў кіно было смелым рэжысёрскім крокам. Кожны ж новы выканаўца ролі У. І. Леніна прыцягвае да сябе пільную ўвагу крытыкі і гледачоў. Эксперымент быў удалы. І таго ж Кірыла Лаўрова рэжысёр запрашае на ролю Окунева ў «Зваротнай сувязі» — ролю кар'ерыста і кан'юнктуршчыка, раўнадушнага і да людзей, і да справы, якую гэтыя людзі робяць. Абаяльнасць вобразаў, створаных Лаўровым раней, тут падкрэслівае тая акалічнасць, што Окуneў не сам па сабе такі, а «па пасадзе»...

Аб чым бы ні гаварыў Віктар Трэгубовіч у сваіх фільмах, да якога б часу ні адносілася ў іх дзеянне, ён заўсёды сучасны. Нават зварот да часу, аддаленага ад нас дзесяцігоддзямі, у Трэгубовіча заўсёды апраўдан актуальнасцю тэмы на сённяшні дзень. Ідэя мірнага суіснавання дзяржаў з розным дзяржаўным ладам — ленінская ідэя міру — увасабляецца рэжысёрам у фільме «Давер'е» (сумесная пастаноўка з фінскімі кінематаграфістамі) праз вобраз У. І. Леніна, які абвясціў гэту ідэю на заранку існавання Савецкай дзяржавы.

Карціна «На вайне як на вайне» — не проста даніна тэме, вось, маўляў, і я хачу сказаць сваё слова. Не! Гэта слова чалавечай душы, у якой не памірае памяць аб вялікім подзвігу савецкага народа. Гэта абавязак мастака перад людзьмі, якія перамаглі нямецкі фашызм. Расказваючы пра работу над фільмам, Трэгубовіч пісаў: «Расказаць пра салдат, якія робяць патрэбную для краіны справу, расказаць без лішняга пафасу, проста і дакладна — вось гэта, мы лічылі, і будзе праўдай аб вайне...»

Пастаноўка камедыі «Пакідаючы — пакідай» здавалася нечаканай для рэжысёра. Але гэта не было «пробай пяра» ў новым для яго жанры, не было пахвальбой тыпу «Я ўсё магу!». Таму што ў гэтай камедыі рэжысёр з дзівоснай дабратой гаворыць аб людзях, аб іх узаемаадносінах, аб неабходнасці чуласці і ўзаемаразумення. Таму што ў фільме такія жывыя, не хадульныя, такія знаёмыя нам персанажы.

Перадапошнія фільмы В. Трэгубовіча — «Падарожжа ў іншы горад» і «Тройчы пра каханне» — аб каханні. І тут рэжысёр не здраджвае сабе: каханне — тэма вечная, актуальная на ўсе часы. Гэтыя стужкі — зноў аб чалавеку, аб яго пачуццях. Рэжысёр гаворыць аб пошуках кахання. Гаворыць простай і даходлівай мовай кінавобразаў.

У жніўні на суд гледачоў перадаецца новая работа рэжысёра — кінастужка «Магістраль».

Мы спыталі ў Віктара Іванавіча, чаму ён, цяпер ужо і як аўтар сцэнарыя па аповесці В. Барабашова «Гарачыя перагоны», зноў звярнуўся да так званай «вытворчай» тэмы.

— Мяне як грамадзяніна і мастака хвалюе пытанне адказнасці чалавека за даручаную справу,— адказаў рэжысёр.— Нам хацелася сказаць, што талент кіраўніка — гэта такі ж каштоўны капітал, як талент пісьменніка, мастака, вынаходніка.

З таго дня, калі ў 1931 годзе з'явіўся фільм «Сустрэчны», створаны на «Ленфільме», тэма чалавека і яго працы стала адной з галоўных у савецкім кінамастацтве. Вастрыня, прынцыповасць у пастаноўцы важнейшых пытанняў сучаснасці, якія ўласцівы многім кінастужкам апошніх гадоў,— з'ява не выпадковая, яна выклікана да жыцця патрабаваннем часу. Вось і фільм «Магістраль» прымушае гледача, які сядзіць у зале, думаць: а што б я зрабіў у падобнай сітуацыі?

Фільм напамінае аб тым, як многа ў жыцці залежыць ад кожнага з нас.

# ТАРПЕДАНОСЦЫ

Шмат фільмаў знята аб Вялікай Айчыннай. Але, мабыць, яшчэ не ў адным з іх не было так адчувальна паказана пекла вайны, як у каляровай мастацкай кінакарціне «Тарпеданосцы», створанай рэжысёрам Сямёнам Арановічам на кінастудыі «Ленфільм» па матывах ваенных апавяданняў Юрыя Германа.

Гэта баявая гісторыя 9-га гвардзейскага мінна-тарпеднага авіяцыйнага Кіркенескага Чырванасцяжнага палка, які дзейнічаў у гады Вялікай Айчыннай вайны ў Запаляр'і. Тэма фільма блізкая рэжысёру С. Арановічу: ён служыў на Паўночным флоце штурманам самалёта.

У цэнтры карціны — вобразы герояў-лётчыкаў Белаброва, Плотнікава, Чарапца. Яны ідуць на подзвіг ўсвядомлена, без бравады і прыгожых слоў, разумеючы, што вернуцца з бою не ўсе...

У ролі Аляксандра Белаброва зняўся вядомы акцёр Радзівон Нахапетаў.

— Лёс у майго героя,— гаворыць ён,— складваецца трагічна, ён гіне. Гэты вобраз мне цікавы і дарагі, ён працягвае ў маёй творчасці тэму маральнага абавязку чалавека перад людзьмі і самім сабой.

Запамінальныя вобразы ствараюць у фільме таксама Вера Глаголева, Аляксей Жаркоў, Андрэй Болтнеў, Надзея Лукашэвіч, Таццяна Краўчанка, Станіслаў Садальскі.

Хочацца сказаць і яшчэ аб адным «герою» карціны — самалёце ІЛ-4. Гэта машына параўнальна нядаўна з'явілася ў музеі Паўночнага флоту. Яе знайшлі тры гады назад у тундры разам з астанкамі лётчыка, якія авіятары флоту ўрачыста пахавалі.

Самалёт не проста быў рэстаўрыраван знешне. У яго ў час здымак працаваў рухавік, і машына магла рухацца па зямлі, вырульваць на старт. Усе, хто быў на здымках, з гордасцю глядзелі на гэту ажыўшую рэліквію, якая праносіла свае шырокія крылы ўздоўж стаянкі сучасных баявых машын.

### ТОРПЕДОНОСЦЫ

Сколько фильмов снято о Великой Отечественной! Но, может быть, еще ни в одном из них не был так ощутимо показан ад войны, как в кинокартине «Торпедоносцы», созданной на «Ленфильме» по мотивам военных рассказов Юрия Германа.

Это боевая история 9-го гвардейского минно-торпедного авиационного Киркенесского Краснознаменного полка, который действовал в годы войны в Заполярье.







Белаброў — арт. Радзівон Нахапетаў.
Сяржант Чарапец — арт. Аляксей Жаркоў.
Шура — арт. Вера Глаголева, Белаброў — арт. Радзівон Нахапетаў.

# ДЗЯМІДАВЫ

Пятроўскія рэформы закранулі ўсе бакі жыцця і дзейнасці рускага народа. Але ў першай бітве са шведамі пад Нарвай Пётр I пацярпеў, як вядома, жорсткае паражэнне і ўбачыў прычыны паражэння ў тым, што рускай арміі не хапала гармат, ядраў, ружжаў. Усё гэта патрэбна было неадкладна і ў вялікіх колькасцях. І Пётр прымае рашэнне аб стварэнні айчыннай металургіі, перадае тульскаму збройніку Мікіту Дзямідаву землі і завод на рацэ Нейве з тым, каб ён у самы кароткі тэрмін наладзіў вытворчасць чыгуну і жалеза.

Сцэнарый каляровай двухсерыйнай шырокаэкраннай мастацкай кінакарціны вытворчасці Свярдлоўскай кінастудыі напісалі Уладзімір Акімаў і Эдуард Валадарскі. Дзеянне фільма адбываецца ў асноўным на Урале, а таксама ў Туле і Пецярбургу.

— Але дзейнасць Дзямідавых,— гаворыць рэжысёр-пастаноўшчык Яраполк Лапшын,— адна са складаных, супярэчлівых старонак гісторыі нашага краю. На іх ляжыць злавесны цень жорсткасці і дэспатызму ў адносінах да рабочых. Крывёй напісана гісторыя асваення багацейшага краю — Урала, гісторыя будаўніцтва дзямідаўскіх заводаў. І ніякімі гістарычнымі заслугамі гэта жорсткасць не можа быць апраўдана. Мне заўсёды хацелася выклікаць у гледача не толькі цікавасць да той далёкай эпохі, але закрануць яго розум і душу гневам, смуткам, сумненнем. Зрабіць так, каб гэтыя смутак і боль падводзілі да актыўнай грамадзянскай пазіцыі.

На жыцці Мікіты і яго сына Акінфія Дзямідавых, што пройдуць перад намі ў карціне, адаб'ецца гісторыя пятроўскай эпохі. З уводам дзямідаўскіх заводаў Расія спыніла закуп за мяжой жалеза і чыгуну. Наадварот, тагільскае жалеза з маркай «Стары собаль» ахвотна куплялі за мяжой. Руская зброя, выробленая з высакаякаснага жалеза, была значна лепш за шведскую, якая лічылася лепшай у свеце.

На заводах працавала велізарная колькасць людзей. Вярбоўшчыкі Дзямідавых куплялі прыгонных сотнямі і сілком перавозілі на Урал. Мясцовае насельніцтва прыпісвалася да заводаў. І сёння ў старажылаў жывуць у памяці расказы продкаў аб страшэннай дзямідаўскай няволі. Разам з тым іменна ў гэты час на заводах з'явіліся дынастыі майстравых — кавалёў, плавільшчыкаў, збройнікаў. Ішло нараджэнне ўральскага рабочага класа.

З Акінфіем Дзямідавым мы ўпершыню сустрэнемся, калі ён — малады, шчаслівы і закаханы хлопец — прыязджае на Урал. На нашых вачах ёнператворыцца ў буйнога гаспадара, капіталіста, паплечніка рускага цара, а ўнутраныя супярэчнасці, якія пастаянна яго гнятуць, выклічуць душэўны разлад...

Са смерцю Акінфія дынастыя славутых заводчыкаў паступова вырадзілася, але ўральскія заводы раслі, памнажаліся, давалі метал Расіі, садзейнічаючы яе перамогам, яе магутнасці.

— Ад пераканаўчасці натуры ў гістарычным фільме,— падкрэслівае Я. Лапшын,— залежыць многае. Вось чаму мы імкнуліся здымаць у тых мясцінах, дзе захаваны помнікі мінулай эпохі. Але, на жаль, іх амаль не засталося. Шырока вядома Няўянская вежа, задуманая як сімвал велічы роду Дзямідавых. Па размеру, архітэктурнаму вырашэнню і выкананню яна не ўступала маскоўскім вежам. Але цяпер яна ў даволі запушчаным стане. Крыўдна, што мы не адносімся яшчэ з належнай увагай да помнікаў старажытнасці! Немалаважную ролю ў выяўленчым рашэнні фільма павінна была адыграць і прырода Урала. Яна арганічна ўпісваецца ў канву фільма, надае яму маляўнічасць, непаўторны каларыт...

Вялікую работу па ўзнаўленню воблiку эпохі прарабілі аператар карціны Анатоль Леснікаў і мастак Юрый Істратаў. Яны не ганяліся за музейнай старажытнасцю, але кожнай рэчы імкнуліся надаць дакладнасць, каб глядач мог адчуць яе ўзрост, матэрыял, мастака, які яе рабіў. Гэтыя непрыкметныя, здавалася б, дэталі безумоўна дапамагалі акцёрам, давалі ім адчуванне асяроддзя, часу.

Галоўныя ролі ў фільме выконваюць выдатныя акцёры — Яўгеній Еўсцігнееў, Вадзім Спірыдонаў, Аляксандр Лазараў, Леанід Кураўлёў, Міхаіл Казакоў, Людміла Чурсіна, Лідзія Федасеева-Шукшына, Таццяна Ташкова, Валерый Залатухін, Любоў Палехіна, Мікалай Скарабагатаў, Уладзімір Балашоў і іншыя.

### ДЕМИДОВЫ

Петровские реформы коснулись всех сторон жизни и деятельности русского народа. Но в первой же битве со шведами под Нарвой Петр I потерпел, как известно, жестокое поражение. России нужны были пушки, ядра, ружья. И Петр принимает решение о создании отечественной металлургии. Он передает тульскому оружейнику Никите Демидову земли и завод на Урале с тем, чтобы тот в самый короткий срок наладил производство чугуна и железа...

Действие фильма, снятого на Свердловской киностудии, происходит на Урале, а также в Туле и Петербурге.

## Акцёры новых фільмаў

### ЯЎГЕНІЙ ЕЎСЦІГНЕЕЎ

Карзухін у «Бегу», ігумен у «Легендзе пра Тыля», генерал Пралінскі ў «Брыдкім анекдоце» — якія розныя ролі ў фільмах толькі А. Алава і У. Наумава! А яшчэ быў прафесар Плейшнер у «Семнаццаці імгненнях вясны», сучасныя героі ў п'есах А. Гельмана і Г. Бокарава на сцэне МХАТа... Знайсці для іх агульны назоўнік нялёгка. Зразумела адно: Яўгеній Еўсцігнееў — адзін з першых у плеядзе трагікамічных акцёраў.

Упершыню ён зняўся ў 1957 годзе ў маленькай ролі палкоўніка Петэрсана ў «Паядынку» А. Купрына.

Між іншым, «дэбютант» ужо тады быў вопытным акцёрам: за яго плячыма было некалькі гадоў работы ў тэатрах Горкага і Уладзіміра, безумоўны поспех на сцэне «Сучасніка». Уменне спалучаць глыбіню зместу з лаканізмам формы выдатна падышло ў кіно і праславіла Еўсцігнеева як майстра эпізоду. «Балада пра салдата», «У цяжкую часіну», «Дзевяць дзён аднаго года», «Верце мне, людзі!», «Чалавек ідзе за сонцам» — усе гэтыя ролі сталі хрэстаматыйнымі ўзорамі акцёрскага майстэрства. У апошнім з названых фільмаў ён іграе матацыкліста, які здзяйсняе «бясстрашны» рэйс. У маленькага героя дух займае: вось дзе бясстрашны чалавек! Праз шчылінку ў цыркавым шатры ён назірае, як яго герой здымае з галавы бліскучы аранжавы шлём і адразу ператвараецца ў нецікавага лысаватага чалавека, які пакорна выслухоўвае натацыі сваёй прыгожай і капрызнай жонкі. Сапраўды, ад вялікага да смешнага — адзін крок. Потым гэта амплітуда будзе адзначаць палярныя пункты ролей Еўсцігнеева яшчэ не раз.



Мікіта Дзямідаў — арт. Яўгеній Еўсцігнееў.

Фільм Адэскай кінастудыі «Ніколі» даўно згубіўся ў стракатым кінапатоку, аднак еўсцігнееўскі дырэктар завода Алексін — першая «поўнаметражная» роля ў кіно — адклаўся ў памяці.

Сярэдняга ўзросту, з халодным сканцэнтраваным на сваіх думках позіркам, няўсмешлівы, ён раскрываецца з першых фраз: «Машыну заўтра раніцай», «Я скончыў», «Сабаку (суседзі трымаюць сабаку) убраць». Бяздушны, ха-

лодны, нават жорсткі, ён і асуджан на халодную адзіноту. Алексін прывык будаваць караблі, аддаючы ўсяго сябе жалезным канструкцыям. Гэтага патрабаваў час. Усё астатняе адышло на другі, а то і трэці план. Ён не ўмее знаходзіць кантакт з навакольным светам, але сам больш за іншых пакутуе ад голаду чалавечых адносін. Фатальна дэтэрмінаваны характар з еўсцігнееўскай трагічнай ноткай — гэта самае цікавае, што ёсць у фільме. Усё астатняе — толькі невыразны фон.

У камедыі «Сардэчна запрашаем, або Пабочным асобам уваход забаронен» Еўсцігнееў іграе антыпода Алексіна — начальніка піянерскага лагера Даніна. Цяжка ўявіць больш непадобныя ролі. Чалавек незвычайнага розуму — і круглы дурань, дэспат — і ахвяра дэспатызму, максімаліст — і прыстасаванец. І ўсё ж такія ні ў чым не падобныя чалавечыя тыпы маюць адзін выток — гэта эпоха, якая іх нарадзіла.

Еўсцігнееў рэдка калі раскрывае перадгісторыю сваіх герояў, яшчэ радзей дазваляе зазірнуць у іх будучае. Яны з'яўляюцца і знікаюць, выклікаючы нясцерпную цікаўнасць, інтрыгуючы яркасцю асобы, нават нейкай таямнічасцю. «Таямнічасць» акцёра доўгі час інтэнсіўна эксплуатавалася. У большасці яго фільмаў («Ім пакараецца неба», «Мэлада-зелена», «Будуецца мост», «Вернасць», «Гіпербалоід інжынера Гарына», «Супрацоўнік ЧК») гэта рыса не толькі галоўная, але і адзіная. Яго героі з'яўляюцца тады, калі драматургічнаму матэрыялу не хапае канкрэтнасці, бо імення ў канкрэтнасці — сіла гэтага акцёра. На канкрэтнай глебе яго магчымасці невычэрпныя. Шматгранны талент акцёра асабліва ярка ўспыхвае ў ансамблі. Прыгадаем Еўсцігнеева ў славутых камедыях Э. Разанава «Зігзаг удачы», «Сцеражыся аўтамабіля», «Старыя-разбойнікі», «Надзвычайныя прыгоды італьянцаў у Расіі». Тут жа трэба прыгадаць і «Залатое цяля» М. Швейцэра, у якім Еўсцігнееў сыграў незабыўнага «падпольнага мільянера» Карэйку. Па аб'ёму роля Карэйкі — эпізадычная, па значэнню ў канцэпцыі фільма — ледзь не другая пасля Астапа. Відаць, таму яна і дасталася Еўсцігнееву — выдатнаму майстру дакладнага штрыха.

Яркай старонкай у біяграфіі акцёра, паводле слоў самога Еўсцігнеева, застаецца работа з Васілём Шукшыным («Дзіўныя людзі»).

— Сціплы па сваёй натуры чалавек, Васіль Макаравіч быў надзіва беражлівы з акцёрамі — успамінае Еўсцігнееў.

Героі Яўгена Еўсцігнеева думаюць. Кожны аб сваім і, вядома, кожны пасвойму. І таму, што гэты акцёр — цудоўны мімiст, на яго твары адлюстроўваюцца не толькі пачуцці і думкі, але і намёкі на пачуцці, падспудная работа.

Гэта асабліва ярка праяўляецца ў рабоце Яўгенія Еўсцігнеева ў фільме А. Зархі «Аповесць пра невядомага акцёра». Тут ён выступае ў ролі акцёра маленькага перыферыйнага тэатра Паўла Паўлавіча Гараева. Аб гэтай сваёй рабоце Я. Еўсцігнееў гаворыць:

— Мой герой мне не проста сімпатычны. І я нават не проста люблю яго і ведаю аб ім усё, як часта гавораць акцёры аб сыграных персанажах. І, дарэчы, праўда, калі пражываеш з героем цэлае экраннае або сцэнічнае жыццё, пачынае здавацца, што ўсё-ўсё да малейшых дэталей аб ім ведаеш. І ўсё ж кожнаму артысту сустракаецца герой, якога ён ведае, як самога сябе, у вобраз якога ён уваходзіць адразу, лёгка і смела. Такім стаў для мяне Пал Палыч.

У яго не было пэўнага прататыпа, гэта вобраз зборны, але такіх артыстаў я ведаў, з такімі я сябраваў, я працаваў з імі — свае ж першыя крокі ў мастацтве рабіў у правінцыяльным тэатры. Наогул правінцыяльная інтэлігенцыя — гэта людзі асаблівай пароды, іх штодзённая, сціплая і, часам, непрыкметная праца прыносіць плён неймаверны, іх значэнне нават цяжка адразу сабе ўявіць. Нездарма сталічная славутасць Міхаіл Цвярской гаворыць майму Пал Палычу: «Эх, Паша, калі б мая воля, я б паставіў дзе-небудзь у самай глыбінцы Расіі помнік Невядомаму акцёру». Я згодзен з Цвярскім — патрэбен такі помнік! А яшчэ ён дадае: «А скульптару загадаў бы ляпіць яго з цябе».

У кінакарціне «Дзямідавы» народны артыст РСФСР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Яўгеній Еўсцігнееў выконвае ролю Мікіты Дзямідава.

— Чаму я даў згоду іграць Дзямідава? Таму, напэўна, што ў маёй біяграфіі не было падобных ролей,— гаворыць Яўгеній Аляксандравіч.— Мікіта ж Дзямідаў натура вельмі моцная, жорсткая, бязлітасная, і прытым яркі чалавек, каларытная асоба...

## МІХАІЛ КАЗАКОЎ



Міхаіл Казакоў. Хто не ведае гэтага імя. Кінагледачам ён добра вядомы таму, што Казакоў зняўся амаль у трыццаці фільмах. Тэатралам — таму, што ён сыграў мноства ролей на сцэнах лепшых маскоўскіх тэатраў. Аматарам паэзіі — таму, што акцёр рэгулярна выступае на эстрадзе як выдатны чытальнік-дэкламатар, яго запісваюць з чытаннем вершаў на пласцінкі. Урэшце-рэшт, усе мы ўякасці тэлегледачоў ведаем і любім Казакова — рэжысёра і выканаўцу ролей у тэлеспектаклях і тэлефільмах.

Гэта неўтаймаванасць, вялікая прага творчасці, рознабаковасць інтарэсаў, высокая культура, напэўна, былі закладзены яшчэ ў дзяцінстве — самой атмасферай, у якой ён рос. Бацька Міхаіла Казакова — ленінградскі пісьменнік, у чыім доме часта бывалі сябры — Зошчанка і Шварц, Тынянаў і Ахматава, Маршак і Чукоўскі, Андронікаў. Ці можна пасля гэтага здзіўляцца, што Міхаіл Казакоў так любіць і разумее паэзію, так цудоўна чытае Пушкіна, Цютчава, Пастэрнака, Цвятаеву? І ці дзіўна, што адна з любімейшых яго тэатральных ролей — славуты Сірано дэ Бержэрак? Зрэшты, хіба менш цудоўнымі былі яго Гамлет, сыграны ў 22 гады, або дзядзечка са «Звычайнай гісторыі», сыграны параўнальна нядаўна. Так, на сцэне Казакову належыць не адна бліскуча зробленая роля.

Добра ведаюць акцёра і кінагледачы. Прыгадаем непаўторную ігру Казакова хоць бы ў такіх фільмах як «Забойства на вуліцы Дантэ», «Васемнаццаты год», «Залаты эшалон», «Цяжкае шчасце», «Дзень сонца і дажджу», «Яўгенія Грандэ», «Дзевяць дзён аднаго года», «Выстрал», «Гоя», «Уся каралеўская раць», «Чалавек-амфібія», «Выконваючы абавязкі»...

— Цікавым і «ўраджайным» для мяне як акцёра, так і рэжысёра быў 1974 год,— гаворыць Міхаіл Казакоў.— Тады я зняўся ў чатырох кінакамедыях. Для кожнай ролі імкнуўся знайсці нешта характэрнае і новую выяўленчую форму. У тэлефільме рэжысёра А. Бялінскага «Леў Гурыч Сінічкін» сыграў графа Зяфірава, а ў тэлефільме «Саламяны капялюшык» рэжысёра Л. Квініхідзе — віконта Хіля дэ Разельба. Гэта роля прынесла мне сапраўдную радасць. Рэжысёр Б. Рыцараў стварыў фільм-казку «Іван ды Мар'я», дзе я сыграў ролю царскага казначэя. У эксперыментальным фільме Р. Быкава «Аўтамабіль, скрыпка і сабака Клякса» сыграў дзве ролі: скрыпача вясёлага ансамбля і повара-грузіна, таму што музыканты па ходу фільма лераўвасабляюцца ў іншых герояў. Яшчэ гледачы змаглі ацаніць маю работу ў шматсерыйным тэлефільме «Блуканне па пакутах», дзе я іграю Бяссонава. У кінакарціне сумеснай савецка-польскай вытворчасці «Маршрут неўміручасці» мне была даручана эпізадычная роля...

У апошні час Міхаіл Казакоў адмаўляецца ад фільмаў, літаратурная аснова якіх не задавальняе яго. І — заканамерна — усё радзей з'яўляецца на экране. Добра гэта ці дрэнна — пытанне дыскусійнае. Вядома, лепш быць «багатым і здаровым» — лепш, каб гэты выдатны акцёр здымаўся многа і толькі ў ролях, вартых яго таленту.

У фільме «Таварыш Інакенцій» Міхаіл Казакоў выступае ў ролі шэфа маскоўскай ахранкі палкоўніка Зубатава, чалавека разумнага, хоць і вельмі цынічнага, але не без абаяльнасці, па-свойму значнага і складанага.

З цікавасцю пазнаёміліся тэлегледачы і з рэжысёрскай работай Міхаіла Казакова — тэлефільмамі «Безымянная зорка» і «Пакроўскія вароты». У першым з іх ён выканаў адну з галоўных ролей.

У новай кінакарціне «Дзямідавы» Міхаіл Казакоў іграе ролю Бірона.

# ТАЛІСМАН

На Маскоўскай кінастудыі імя М. Горкага рэжысёр Ара Габрыелян зняў каляровую кінакамедыю «Талісман» па аднайменнай аповесці Вікторыі Токаравай. Гэта першая поўнаметражная карціна рэжысёра. Аднак у кінематографе ён не навічок: яшчэ ў 1980 годзе на Міжнародным кінафестывалі ў Більбао (Іспанія) яго кароткаметражная стужка «Пагавары на маёй мове», знятая ў аб'яднанні «Дэбют», была адзначана прызам.

— Мне падабаецца проза Токаравай,— гаворыць рэжысёр.— Як быццам жартам, яна ўмее гаварыць аб самых сур'ёзных і важных рэчах. І іменна ў гэтым ключы я стараўся зняць свой фільм. Аб чым жа ён! Жыве на свеце хлопчык. Самы звычайны. Як і ўсе, ходзіць кожны дзень у школу, і з ім не адбываецца нічога незвычайнага. Але вось у адзін з дзён Саша Дзюкін, або проста Дзюк, як называюць героя яго сябры, заяўляе ўсім, што ён — талісман. Так, так, той самы талісман, які прыносіць удачу і шчасце. Але самае дзіўнае ў тым, што ўсе яму вераць. Ды і сам Дзюк нечакана выяўляе ў сябе здольнасць рабіць цуды...

Але «Талісман» — не казка і не навукова-фантастычны фільм. І ўрэшце-рэшт высвятляецца, што талент Дзюка — гэта толькі шчырая добразычлівасць, цёплыя і беражлівыя адносіны да навакольных людзей. І яго «талісманства» заключаецца ў тым, што ён самой сваёй прысутнасцю ў жыцці змяншае дэфіцыт дабраты, які, на жаль, у ім назіраецца.

І вось ужо здольнасці хлопчыка выкарыстоўваюць далёка не заўсёды з высакароднай мэтай. Ёсць, ёсць у нас гэта рыса — сутыкнуўшыся з чым-небудзь незвычайным, адразу ж паспрабаваць выкарыстаць гэта для дасягнення даброт вельмі звычайных. Ну вось як у фільме: жвавая суседка пачула нешта такое пра Сашу Дзюкіна — і адразу да яго з просьбай... дапамагчы дастаць модны мэблевы гарнітур. І Саша, не ў сілах адмовіць, ідзе ў магазін, размаўляе з дырэктарам, за адным разам выратоўвае яго ад звальнення з непрыемнай фармулёўкай, адначасова выслухвае яго споведзь — споведзь прайдзісвета, які пакутуе ад таго ж дэфіцыту дабраты,— а таксама паведамленне, што гарнітураў гэтых у магазіне колькі хочаце, няхай прыходзяць і бяруць. Праўда, дырэктар, разумеючы, што паведамленне аб свабодным продажу модных гарнітураў можа выклікаць недавер'е, гаворыць Сашу: няхай яго знаёмая скажа, што яна ад яго, ад Сашы.

А з чаго гэта ён так раздобрыўся! А з таго ж — з дэфіцыту дабраты: вось выслухаў яго хлапчук, і як быццам лягчэй стала, а то з уласнымі дзецьмі ў яго ніякага кантакту, а тут чужы — слухае. Так, магчыма, і з уласнымі як-небудзь наладзіцца...

Дэфіцыт дабраты — гэта не фальклор і не «байкі», гэта рэч, на жаль, зусім рэальная, і Сашу Дзюкіну даводзіцца адчуваць на сабе яго вынікі.







Саша Дзюкін — Дзяніс Чурманцееў.

Выпадкова сустрэтая жанчына раптам быццам ні з таго, ні з сяго пачынае расказваць яму пра свае цяжкасці — пакахала чалавека, а ён намнога маладзейшы, дык можа ёй змяніць у пашпарце год свайго нараджэння, толькі ці можна гэта! І Саша накіроўваецца да начальніка аддзялення міліцыі высвятляць, ці можна, але тут яго «талісманства», вядома, не дапамагае, бо самі разумееце, што пачнецца, калі ўсе захочуць па якіх-небудзь меркаваннях мяняць год свайго нараджэння.

А, зрэшты, умяшанне Сашы і тут вядзе да дабра — параіў ён жанчыне ўсё расказаць свайму выбранніку, яна так і зрабіла, і ўсё атрымалася выдатна. Яна выканала гэту вельмі простую параду, але вось даць яе мог толькі такі нявопытны ў жыццёвых выпадках і добры чалавек, як Саша. А хто больш дарослы ды (як ён сам бы лічыў) разумны, параіў бы што-небудзь больш мудрагелістае.

І настаўніца Сашы, жанчына зусім сучасная, іранічная, якая з дапамогай гэтай іранічнасці нядрэнна спраўляецца са сваімі выхаванцамі і выхаванкамі, таксама вымушана звярнуцца да яго за дапамогай.

Ні ў што такое не верыць чалавек, ды і пасада ў яе такая, каб не верыць, але калі ёй здалося, што дрэнна са старой маці, якая ляжыць у бальніцы, усё ж вырашыла, накіроўваючыся туды, узяць Сашу з сабой. На ўсякі выпадак,— вядома, нічога такога цудоўнага ў гэтым хлопчыку няма, яна ведае, але... а раптам усё ж. Горш не будзе...

І пайшлі яны разам, і з маці ўсё аказалася добра (зноў жа — ці то з Сашавага «талісманства», ці то сама па сабе паздаравела старая), і па дарозе назад настаўніца ўжо вясёлая, быццам усё мінула канчаткова і назаўсёды. Легкадумныя мы, лёс дае нам званочкі, а мы не чуем...

Галоўную ролю ў фільме іграе мас-





Дырэктар магазіна — арт. Спартак Мішулін.
Яна — арт. Лія Ахеджакава, Дзюк — Дзяніс Чурманцееў.

коўскі школьнік Дзяніс Чурманцееў. У карціне заняты таксама вядомыя акцёры Наталля Варлей, Лідзія Федасеева-Шукшына, Спартак Мішулін, Лія Ахеджакава, Барыслаў Брандукоў, Элеанора Шашкова.

**ТАЛИСМАН**

**Фильм киностудии им. М. Горького рассказывает о том, как в один прекрасный день обыкновенный мальчик Саша Дюкин становится... талисманом. Тем самым талисманом, который приносит удачу и счастье. Саша неожиданно обнаруживает в себе способность творить чудеса. Но это не сказка и не научно-фантастический фильм. А способности Саши — это искреннее и бережное отношение к людям.**

## Акцёры новых фільмаў

# ЛЮДМІЛА МАКСАКАВА

Вядома, не заўсёды пры выбары жыццёвага шляху сямейныя традыцыі маюць рашаючую ролю. Але ў гэтай сям'і атрымалася іменна так. Людміла Максакава, напэўна, і не ўяўляла сябе ў будучым інакш як актрысай. Дачка выдатнай спявачкі і драматычнай актрысы Марыі Максакавай, яна расла ў атмасферы музыкі, размоў аб мастацтве, сустрэч з артыстамі, вучылася ў цэнтральнай музычнай школе (клас віяланчэлі). Такім чынам у біяграфіі Людмілы Максакавай не было крутых паваротаў. Пасля заканчэння Шчукінскага тэатральнага вучылішча з дыпломам артысткі тэатра і кіно яна паступае ў Дзяржаўны тэатр імя Яўгенія Вахтангава, і, вядома, па-сапраўднаму ацаніць творчыя магчымасці гэтай актрысы можна перш за ўсё па яе рабоце ў тэатры.

Кінематаграфічны лёс Людмілы Максакавай спачатку складваўся не вельмі ўпэўнена. Але сёння можна сказаць, што Л. Максакава заняла сваё месца ў кінематографе — і па колькасці сыграных ролей, і па ўзроўню майстэрства.

Першае з'яўленне Людмілы Максакавай на экране адбылося ў карціне «Жылі-былі стары са старой», пастаўленай рэжысёрам Рыгорам Чухраем. Роля Ніны Гусаковай многае дала актрысе. Складаны лёс гэтай маладой жанчыны, якая па ўласнай волі зрабіла няшчаснымі і сябе, і блізкіх людзей, патрабавала ад выканаўцы глыбокага спасціжэння скрытых і не заўсёды зразумелых самой гераіні матываў паводзін. Створаны Максакавай вобраз заклікаў да роздуму аб нялёгкім, заблытаным жыццёвым шляху, ён патрабаваў да сябе ўвагі, асцярожнасці, якая не допускае меркаванняў паспешлівых і аднабокіх.

— Задача акцёра,— гаворыць актрыса,— сэнс яго творчасці заключаюцца, мне здаецца, не ў сцвярджэннях павучальнага характару, не ў тым, каб даваць паспешлівыя, а, значыць, павярхоўныя, у лепшым выпадку дасціпныя адказы, але ў тым, каб паставіць пытанне. Адказам жа на гэта пытанне можа быць усё жыццё мастака. Аднаго вялікага акцёра спыталі, у імя чаго ён іграе на сцэне і ў кіно. Ён адказаў: «Людзі не ведаюць, якія яны на самай справе, а мне здаецца, што я магу паказаць ім гэта...».

Вельмі цёпла была сустрэта роля Надзеі Фёдараўны, сыграная Л. Максакавай у фільме Іосіфа Хейфіца «Дрэнны добры чалавек». Актрыса здолела прынесці на экран характэрную для чэхаўскіх жанчын тугу па прыгажосці, уласцівым ім вострыя адчуванні неасэнсаванасці існавання, імкненне гэту неасэнсаванасць неяк адолець, запоўніць жыццё, няхай нават сказіўшы яго і пагоршыўшы.

Запомнілася актрыса гледачам таксама ў кінастужках «Дакрананне», «Прапаўшы сведка», «Таццянін дзень», «Шлях у «Сатурн», «Бой пасля перамогі» і іншых.

У фільме «Кафэ «Ізатоп» ёсць невялікая роля інжынера Юліі Аляксандраўны Скурлатавай. Гэты вобраз не нясе колькі-небудзь значнай сэнсавай нагрузкі — проста «спакусніца», якая ад суму ўсхвалявала сэрца героя.

Здараецца, што талент, фантазія выканаўцы выходзяць за цесныя рамкі эпізадычнай ролі, і, радуючыся бліскучаму акцёрскаму эцюду, мы ўсё ж адзначаем нястрыманасць, свайго рода перабор, з прычыны якога персанаж парушае драматычны ансамбль. На гэты раз майстэрства Людмілы Максакавай дапамагло пазбегнуць ёй і аднапланавасці, і другой крайнасці — празмернасці выяўленчых сродкаў. Вобраз Скурлатавай атрымаўся дакладным, зразумелым і па думцы, і па эмацыянальнаму напаўненню.

У кожнай сваёй тэатральнай або кінематаграфічнай ролі Людміла Максакава знаходзіць тую неадназначнасць, тую «двухпланавасць», якія робяць чалавечы вобраз жывым і аб'ёмным. Не заўсёды аказваўся добрым драматургічны матэрыял, як, напрыклад, у кінастужках «Антрацыт» (Наташа) або «Канец «Сатурна» (радыстка Сафі), але актрыса расквечвала зададзеную схему і дасягала пэўнага выканаўчага выніку.

Адной з найбольш цікавых работ Максакавай была Надзя ў фільме «Непадсудны». Знаёмства з гераіняй адбываецца ў двух часавых планах, паміж якімі ляжаў дваццацігадовы лёс жанчыны. Юную Надзю яна іграла сур'ёзна і замілавана — светлай, даверлівай, прастадушнай. Цяперашнюю — паважанага юрыста, маці сямейства, прыгожую і



абаяльную жанчыну — стрымана, строга. Дзякуючы гэтай стрыманасці і строгасці, якія не здраджваюць Максакавай нават у самых меладраматычных сцэнах, глядач верыць у яе гераіню, як у рэальную жывую жанчыну.

— Хочацца іграць людзей думаючых,— гаворыць актрыса,— людзей незвычайнага лёсу. І я заўсёды згаджаюся здымацца як толькі ёсць такая магчымасць...

У жніўні гледачы сустрэнуцца з Людмілай Максакавай у новай кінастужцы «Талісман».

# НІЗАМІ

Адзін з вядучых азербайджанскіх кінарэжысёраў, народны артыст рэспублікі Эльдар Кулієў пачынаў свой творчы шлях з распрацоўкі сучаснай тэмы (фільмы «У адным паўднёвым горадзе», «Галоўнае інтэрв'ю», «Сэрца... сэрца»), затым звярнуўся да нядаўняга мінулага, да эпохі першых рэвалюцыйных гадоў («Бухта радасці», «Спадарожны вецер»). І вось — рэзкі паварот да гістарычнай тэматыкі: пасля фільма «Бабек» ён зняў двухсерыйную шырокаэкранную мастацкую кінакарціну «Нізамі», сцэнарый якой напісаў разам з Ісай Гусейнавым.

...Паэт і мысліцель Нізамі Гянджэві нарадзіўся ў адным з буйнейшых гарадоў Сельджукскай дзяржавы ў XII стагоддзі — Гянджы (цяпер Кіравабад). У адрозненне ад большасці сучасных яму паэтаў Нізамі ніколі не служыў пры ханскім двары, застаючыся незалежным. Ён вызваліў ад рабства падараваную яму дэрбенцкім ханам дзяўчыну Афаг і ўзяў яе ў жонкі. Ён прысвяціў ёй адну з лепшых сваіх паэм.

Жыў Нізамі ў бурны час бясконцых войнаў за трон дзяржавы сельджукаў. Геніяльны паэт, гуманіст і мысліцель ў змрочную эпоху сярэдневякоўя задоўга да Томаса Мора і Кампанелы выказаў ідэю утапічнага сацыялізму...

«Шукайце мяне ў маіх радках!» — завяшчаў Нізамі нашчадкам. Іменна гэтым шляхам пайшлі пры стварэнні філь-



Нізамі — арт. Муслім Магамаеў.

# КАРОТКАЕ НАСТАЎЛЕННЕ Ў КАХАННІ

П'еса «Кароткае настаўленне ў каханні», створаная па гумарыстычных апавяданнях Блаўманіса, вытрымала на сцэне Рыжскага мастацкага тэатра 300 пастановак. І вось гэта папулярнае ў народзе прадстаўленне з песнямі і танцамі ператварылася цяпер у фільм. Ці экранізацыя гэта? Зусім не, хоць галоўныя хады сюжэта і дыялогі п'есы захаваны.

Кіно, як вядома, у адрозненне ад тэатра мастацтва менш умоўнае. Кінагерої маюць магчымасць жыць у рэальнай абстаноўцы. Акрамя таго, рэжысёр-пастаноўшчык Рыжскай кінастудыі Імантс Крэнбергс, працуючы з Арнальдсам Лініньшам над сцэнарыем, істотна змянілі характары герояў, асабліва галоўнага. У тэатры Яніс Вілніс быў нейкі вясковы цяльпук, якім камандавалі вясковыя бабы. Кінематаграфічны Яніс пацвярджае словы Блаўманіса (з апавядання «Цудатраўка), што ўсе Вілнісы ў жыцці вытваралі што-небудзь такое, чаму людзі потым доўга дзівіліся.

У фільме Яніс — хлопец кемлівы і спрытны. Ён задумвае прыкінуцца глухім і робіць гэта проста выдатна. Яго багатая фантазія і артыстызм выліваюцца на экран у асляпляльных рэвю-кадрах. У іх у музычна-танцавальнай форме разыгрываюцца прывіды Яніса-жаніха, які раз'язджае ў пошуках нявесты. Рытм дзеяння кінематаграфісты стараліся прыстасаваць да характару героя — гарачага і тэмпераментнага.

Новы фільм музычны, з песнямі і танцамі. Танцы ў пастаноўцы балетмайстра Аляксандра Лемберга выконваюць прафесіянальныя акцёры, а таксама народны танцавальны ансамбль «Вектар» пад кіраўніцтвам Ульдзіса Штэйна.

Цудоўную музыку да фільма напісаў Раймонд Паулс.

Героі гумарыстычных апавяданняў Блаўманіса жылі на мяжы стагоддзяў. Стваральнікі карціны імкнуліся як мага больш паказаць у фільме бытавых сцэн, старых латышскіх народных звычаяў. Тут і абліванне вадой, і свята веснавога сонцавароту, і кірмаш з фокуснікамі, цыганамі, карабейнікамі і каруселямі.

— Цяпер, калі работа над фільмам закончана,— гаворыць Імантс Крэнбергс,— магу смела сказаць, што я як рэжысёр задаволен ігрой усіх акцёраў. У Роландса Загорскіса Яніс, па-мойму, самая вялікая ўдача ў кіно. Эдуард Паўлс, з захапленнем і азартам іграючы Эйдзіса Пакулса, сапраўды растварыўся ў жанры. У незвычайным амплуа — у ролі млынара, першага валаснога багацея і прыходскага галавы Вейша — убачым Улдзіса Пуцыціса. Добра выконваюць свае ролі кандыдаткі ў Янісавы нявесты: гультайка Анне — Ліліта Азаліня (адзіная з актрыс, якая іграе тую ж ролю, што і ў тэатры), дачка млынара Аліда — Мая Эглітэ, дочкі карчмара Розе і Магоне — Дзіяна Зандэ і Анда Зайцэ, Заплiза (гэту ролю проста і непасрэдна іграе баскетбалістка ТТТ Лаймдота Шуркуса) і «цуда-траўка» Ілзе — Эсмеральда Эрмале. Ага, вось яшчэ валаснoe трыо — усведныя, усюдысныя кумкі ў выкананні Антры Ліедскалніні, Святланы Блесе і Ілгі Вітолы.

Мы не ставілі сабе мэту прымусіць гледачоў смяяцца да слёз. Нас турбавала, каб героі нашы прыйшліся ім да спадобы, выклікалі добрую ўсмешку, кранулі сэрца, прымусіўшы праглынуць часам засеўшы ў горле камяк.

### КРАТКОЕ НАСТАВЛЕНИЕ В ЛЮБВИ

Кинокартина, снятая на Рижской киностудии, рассказывает о том, как деревенский парень Янис ищет себе невесту. Чтобы больше узнать о девушках, он притворяется глухим. Богатая фантазия авторов фильма и артистизм исполнителей выливаются в блестящие кадры. В них в музыкально-танцевальной форме разыгрываются видения жениха, разъезжающего в поисках невесты.

Прекрасную музыку к фильму написал Раймонд Паулс.



Яніс — арт. Роландс Загорскіс, Ілзе — арт. Эсмеральда Эрмале.

ма пра паэта кінематаграфісты. У сюжэце карціны пераплецены факты біяграфіі Нізамі з вобразамі яго твораў.

У ролі геніяльнага Нізамі зняўся народны артыст СССР Муслім Магамаеў.

— Кінематограф заўсёды прыцягваў мяне багаццем выяўленчых сродкаў,— гаворыць папулярны спявак.— Але свой артыстычны лёс я да гэтага часу не звязваў з ігравым кіно. Карціны, у якіх здымаўся ў якасці вакаліста,— справа зусім іншая. Пераканан, што спявак павінен займацца сваёй справай. Іменна таму і адхіліў некалькі вельмі спакуслівых прапаноў кінематаграфістаў. Але вось запрашэнне рэжысёра Э. Куліева прымусіла змяніць ранейшую думку: гаворка ж ішла аб першым увасабленні на экране вобраза Нізамі, чыя паэзія і цяпер, праз восем стагоддзяў, захапляе сваёй мудрасцю, застаецца глыбока сучаснай...

З палатна, якое ўстаноўлена ў кабінеце Магамаева, на нас глядзіць Нізамі. Партрэт яшчэ не закончан. Жывапіс — даўняе захапленне Магамаева. Па звычцы, што ўкаранілася яшчэ пры рабоце над опернымі ролямі, ён на аркушах ватмана, палатне і ў пластыліне прабуе «ўбачыць» свайго героя.

— Працуючы над фільмам,— працягвае акцёр,— мы імкнуліся, каб Нізамі, зрабіўшы крок праз стагоддзі, паўстаў на экране абаронцам міру і дружбы народаў, інтэрнацыяналістам. Гэтымі якасцямі нам перш за ўсё і дарагая яго паэзія.

У карціне здымаліся таксама Гаміда Амарава, Гасан Турабаў, Аладзін Абасаў, Усевалад Якут і іншыя.

**НИЗАМИ**

Фильм азербайджанских кинематографистов посвящен жизни гениального поэта, гуманиста и мыслителя средневековья. В сюжете картины факты биографии Низами переплетаются с образами его произведений.

В роли Низами снялся народный артист СССР Муслим Магомаев.

## Стваральнікі новых фільмаў

## ІМАНТС КРЭНБЕРТС

З тэатрам Імантс Крэнбергс быў звязан з дзяцінства — з трынаццаці гадоў ён іграў дзіцячыя ролі ў спектаклях Рыжскага мастацкага тэатра. Акрамя таго, ён удзельнічаў у дубліраванні фільмаў і ў дзіцячых перадачах на радыё. Паралельна з гэтым заняткам і вучобай ён іграў у джазавым аркестры і ў далейшым стаў адным з заснавальнікаў Рыжскага эстраднага аркестра.

У 1953 годзе Імантс Крэнбергс закончыў рэжысёрскае аддзяленне тэатральнага факультэта і паставіў больш як сорак спектакляў розных жанраў — п'есы, аперэты, вадэвілі, оперу — у Ліепайскім тэатры і ў тэатры юнага гледача, дзе працаваў рэжысёрам.

У кінематографе Імантс Крэнбергс пачынае працаваць у 1962 годзе — пасля заканчэння Вышэйшых рэжысёрскіх курсаў, а як акцёр ён сустрэўся з кіно яшчэ раней, удзельнічаючы ў фільмах «Бура» і «Змова паслоў». Яго дэбют як кінарэжысёра адбыўся ў 1966 годзе кароткаметражным мастацкім фільмам «У перадсвітальнай дымцы», для якога ён разам з Э. Лівам напісаў сцэнарый. Кінарэжысёр Імантс Крэнбергс імкнецца стымуляваць развіццё латышскай кінадраматургіі, здымаючы фільмы аб сучаснасці — «Промні ў шкле», «Елка ў жыцце», «Ключы горада». Рэжысёр стварыў шэраг работ у жанры хронікі — дакументальны фільм пра Эдуарда Смільгіса, каляровы дакументальны фільм «Мастацтва Прыбалтыйскіх рэспублік», які быў знят спецыяльна для Сусветнай выстаўкі ў Манрэалі, працаваў ён і над многімі кіначасопісамі.

Аб сваёй перадапошняй рабоце — мастацкім фільме «У цяню мяча» — Імантс Крэнбергс расказвае:

— У мяне пыталіся, чаму я пакінуў сучасную тэматыку і звярнуўся да такіх далёкіх часоў. Гэта не выпадковасць. Мяне заўсёды вабіла драматургія Райніса. У сваёй рэжысёрскай рабоце я сустракаўся з ёй у Ліепайскім тэатры, дзе інсцэніраваў п'есу Райніса «Агонь і ноч», і ў тэатры юнага гледача, дзе задумаў паставіць п'есу «Індуліс і Арыя». Ажыццявіць гэту задуму да канца не ўдалося: я павінен быў паехаць у Маскву, на Вышэйшыя курсы кінарэжысёраў.

У тузе па вострых канфліктах і моцных характарах, у доўгім роздуме аб лёсе нашага народа, калі паўстала пытанне, як нарадзіліся латышскія стралкі, з'явілася думка звярнуцца да гісторыі нашага народа. Спачатку мы з тэатральным і кінадраматургам Янісам Лусісам хацелі звярнуцца да Райніса і экранізаваць яго п'есу «Каханне мацней за смерць». Але, шмат разоў перачытваючы напісаны ў 20-я гады твор Райніса, прыйшлі да вываду, што рашэнне заключанай у ім тэмы можа быць для сённяшняга гледача вельмі вузкім. Больш як год вывучаючы архіўныя і бібліятэчныя матэрыялы аб жыцці латышскага народа ў XVII стагоддзі, мы знайшлі шмат старонак, поўных трагізму і мужнасці. Так у нашым уяўленні стварaўся абагулены вобраз народа. які мог бы даць адказ на пытанне: чаму сёння наш народ такі моцны, чаму неўміручы дух народа? Мы зразумелі, што, аб'ядноўваючы думкі аб гэтых праблемах з падзеяй, якая адбылася ў 1620 годзе і і расказвае аб здольнасці простай сялянскай дзяўчыны Маі захаваць маральную чысціню, не дапусціць кампрамісу, аддаючы за гэта жыццё, можна стварыць патрэбны для сённяшняга гледача і асабліва патрэбны для моладзі фільм...

— Відаць, новая кінастужка «Кароткае настаўленне ў каханні» дала вам магчымасць сустрэцца з вашым юнацкім захапленнем — з музыкай?

— Безумоўна. Гэта фільм музычны, я б нават сказаў — народны мюзікл. Хоць у прынцыпе я супраць таго, каб кожны фільм сілком запіхваць у рамкі якога-небудзь пэўнага жанру. І калі глядач, для якога ўрэшце-рэшт мы працуем, нашу работу прыме, яму няма справы, ці чысты гэта жанр або змяшэнне жанраў. І калі фільм прымусіць гледачоў смяяцца, забавіць іх ды яшчэ нагадаць, што дабро заўсёды перамагае над злом, я буду задаволен.

# «ЛЕТАПІС» — ТВОРЧАЕ АБ'ЯДНАННЕ КІНАСТУДЫІ «БЕЛАРУСЬФІЛЬМ»

**НАГЛЯДНАСЦЬ У ПАЛІТЫЧНАЙ ВУЧОБЕ**

Калгас імя Цімірaзева Капыльскага раёна — адна з перадавых гаспадарак Мінскай вобласці. Яна з году ў год дабіваецца добрых вынікаў ва ўсіх галінах сельскагаспадарчай вытворчасці. Пазнаёміўшыся з гаспадаркай, прыходзіш да вываду, што тут накоплен не толькі багаты вытворчы вопыт, але і вопыт палітычнай вучобы. З ім і знаёміць гэты фільм (аўтары сцэнарыя І. Вейняровіч, В. Засінец, рэжысёр І. Вейняровіч, аператар В. Купрыянаў).

У дні палітычных заняткаў ветэраны гаспадаркі, моладзь, спецыялісты збіраюцца ў чырвоным кутку калгаснага Дома жывёлавода. На адных такіх занятках, якія вядзе старшыня калгаса В. І. Каравай, і пабываюць гледачы. Тэма заняткаў — «Пытанні выканання Харчовай праграмы».

Васіль Іосіфавіч — адзін з лепшых прапагандыстаў раёна. Праслухаўшы тэкст магнітафоннага запісу па данай тэме, слухачы каменціруюць яго, аналізуюць становішча спраў па выкананню Харчовай праграмы не толькі ў сваёй гаспадарцы, але і ў суседніх, а таксама ў некаторых перадавых калгасах рэспублікі. Напрыклад, у калгасе «Аснежыцкі», што на Піншчыне. Кінаэкран, устаноўлены ў аўдыторыі, даў магчымасць слухачам сустрэцца з яго старшынёй, двойчы Героем Сацыялістычнай Працы Уладзімірам Антонавічам Ралько, сваімі вачыма пераканацца, як яшчэ дваццаць гадоў назад неўрадлівыя пясчаныя землі «Аснежыцкага» давалі вельмі нізкія ўраджаі. Але ў выніку самаадданай працы калгаснікаў яны ператварыліся ва ўрадлівыя, якія цяпер даюць высокія ўраджаі ў любых умовах надвор'я.

І пачынаецца зацікаўленая размова слухачоў, сэнс якой зводзіцца да аднаго — што трэба зрабіць для таго, каб землі калгаса імя Цімірaзева зраўняліся з землямі «Аснежыцкага».

Фільм падрабязна расказвае і аб тым, як у гаспадарцы самі прапагандысты і слухачы рыхтуюць неабходныя для заняткаў матэрыялы, наладжваюць тэматычныя выстаўкі, як яны плённа супрацоўнічаюць з раённым таварыствам «Веды», мясцовай школай. Вялікую цікавасць мае і знаёмства з арганізацыяй прапагандысцкай работы ў раённым цэнтры.

Фільм падкрэслівае думку, што там, дзе прапагандысцкая работа арганізавана на належным узроўні, палітычныя заняткі дапамагаюць сельскім працаўнікам паспяхова вырашаць задачы Харчовай праграмы.

# ДОЎГАЯ ДАРОГА ДА СЯБЕ

**Наталля Трошчанка, скончыўшы Ленінградскі дзяржаўны інстытут тэатра, музыкі і кінематаграфіі, пачала свой творчы шлях на кінастудыі асістэнтам рэжысёра. Гэта было ў 1956 годзе.**

**І вось у 1970 годзе ёй і яе таварышу па працы Анатолю Вяхотку, на рахунку якога быў ужо поўнаметражны фільм, даручылі пастаноўку карціны «Дазвольце ўзлёт» пра лётчыкаў невялікага авіяатрада, дзе ў галоўнай ролі зняўся Анатоль Папанаў. Дэбют аказаўся ўдалы.**

**Яшчэ чатыры фільмы на працягу васьмі гадоў былі пастаўлены Н. Трошчанка і А. Вяхоткам: «Аб тых, каго памятаю і люблю», «Кадкіна кожны ведае», «Паветраплавальнік». Апошняй работай двух рэжысёраў была драматычная аповесць «Траса», якая стваралася ў садружнасці з чэхаславацкімі кінематаграфістамі.**

**Першай самастойнай работай Наталлі Трошчанка стаў фільм «Пані Марыя» — карціна пра вайну, яе апошнія дні.**



Ганна — арт. Яўгенія Сіманава, Шурык — арт. Мікалай Карачэнцаў.

**Затым быў фільм «Каменданцкая гадзіна».**

**І, нарэшце, апошняя работа Наталлі Уладзіміраўны — фільм «Доўгая дарога да сябе», зняты па сцэнарыю Яўгенія Габрыловіча і Саламона Розена. Стужка расказвае аб жыцці маладой таленавітай мастачкі Ганны, якая імкнецца да дасканаласці ў сваёй творчасці, шукае сапраўднае каханне. І тое, і другое даецца ёй вельмі цяжка, пакутліва, суправаджаецца стратамі і расчараваннямі.**

**У ролі галоўнай гераіні выступае папулярная актрыса Яўгенія Сіманава.**

**У іншых ролях заняты Мікалай Карачэнцаў, Лілія Грыцэнка, Таццяна Лаўрова, Віктар Яўграфаў, Алег Пальмаў, Ларыса Маляванная, Уладзімір Лецянкоў.**

**ДОЛГАЯ ДОРОГА К СЕБЕ**

**Снятая на «Мосфильме» лента повествует о жизни молодой талантливой художницы, которая стремится к совершенству в своем творчестве, ищет настоящую любовь.**

---

## Акцёры новых фільмаў

## ЛАРЫСА МАЛЯВАННАЯ

Вось ужо больш як трыццаць гадоў яна на экране — жанчына сярэдняга росту і звычайнай прыгажосці. Але далёка не звычайнага таленту.

Кінаактрыса Ларыса Маляванная сваёй ігрой умее зрабіць цікавым нават пасрэдны фільм, як гэта было, напрыклад, з кінакарцінамі «Дазвольце ўзлёт», дзе яна выканала ролю Кацярыны, або «Гросмайстар» (Лена).

Гаворачы аб Ларысе Маляваннай, часта гавораць аб так званых «сваіх» і «не сваіх» ролях. Якая ж роля «свая», а якая «не свая»? Пытанне гэта было пастаўлена з асаблівым акцэнтам пасля выхаду фільма «Скачок з даху». Маляванная ў ім сыграла кар'ерыстку, жанчыну з халодным разлікам, дырэктара навукова-даследчага інстытута Маргарыту Сяргееўну. Некаторыя крытыкі і кінагледачы заявілі, што гэта не яе роля, і, магчыма, не варта Маляваннай яе іграць. Вось як адказала на гэта пытанне сама Ларыса Маляванная: «Так, гэта роля, што называецца, не мая, але я вырашыла: чаму б не паспрабаваць. Па ўласнай жа тэатральнай практыцы я ўжо ведаю, што часам абсалютна мая роля раптам не ўдаецца ў поўную меру, а не мая — наадварот».

А тэатральная практыка ў Ларысы Маляваннай багатая. Яна вельмі паспяхова выканала на сцэне многія класічныя ролі, з'яўляючыся і цяпер артысткай Ленінградскага тэатра імя Горкага, а з 1975 года — заслужаная артыстка РСФСР. Некалі Ларыса Маляванная пакінула V курс Краснадарскага пединстытута і паступіла ў Ленінградскі тэатральны інстытут. Яна скончыла рэжысёрскае аддзяленне і стала... артысткай. Сама актрыса расказвае, што з-за сваёй сціплай знешнасці яна баялася ісці нават на рэжысёрскае аддзяленне тэатральнай навучальнай установы, на самай жа справе ўвесь час марыла аб акцёрскай рабоце.

Увесь выпуск, у якім была і Маляванная, выехаў у Краснаярск і заснаваў там тэатр юнага гледача імя Ленінскага камсамола. Сярод многіх ролей, сыграных там Маляваннай, былі ўдалыя і не вельмі, затое яна хутка набыла навыкі акцёрскай работы.

У кінематографе аб Маляваннай загаварылі пасля выканання ёю ролі Нюры ў фільме «У дзень вяселля» (1969 г.). Затым былі ролі ў кінакарцінах «Заўтра, трэцяга красавіка» (1969 г.), «Выбух замаруджанага дзеяння» (1971 г.), «За воблакамі — неба» (1973 г.), «Веснавыя ператварэнцы» (1974 г.), «Адзіная» (1975 г.), «Легенда пра Тыля» (1976 г.),



«Іванцоў, Пятроў, Сідараў» (1978 г.), «Сцэны з сямейнага жыцця» (1979 г.). І перадапошняя работа — карціна «Познія спатканні», у якой Ларыса Маляванная сыграла галоўную ролю. Таму ў размове з актрысай перш за ўсё і хацелася пачуць, як яна сама адносіцца да жанчын, падобных гераіні «Позніх спатканняў», ці сустракаліся яны ёй у рэальным жыцці.

— Так, я сустракала нямала жанчын, лёс якіх вельмі падобны на маю гераіню Веру,— расказвае актрыса.

Жанчына створана быць маці. Гэта значыць — не толькі нарадзіць, але і духоўна вылепіць чалавека, для чаго патрэбна, магчыма, усё яе жыццё. Але ў той жа час існуюць аб'ектыўныя абставіны, ход гісторыі, зрухі, якія адбіваюцца на ўсіх нас і ў кожнай асобнай біяграфіі. Вярнуцца да вытокаў у іх чыстым выглядзе сёння немагчыма. Хто з жанчын, якіх вы ведаеце, згадзіўся б добраахвотна выбраць для сябе лёс толькі жонкі, толькі маці? Але ў той жа час спалучэнне дзелавога і дамашняга боку жыцця даецца жанчыне вельмі дарагой цаной, нярэдка за кошт сям'і.

— Як у гэтым выпадку ўзгадніць вашу думку з характарам і лёсам Веры Іванаўны, якая якраз і належыць да таго тыпу жанчын, аб якіх вы толькі што гаварылі? Ці можа акцёр пражыць жыццё свайго героя, не прымаючы яго поглядаў?

— У мяне гледачы пасля выхаду карціны пыталіся: «А вы самі Веру Іванаўну любіце?» Думаю, яна добры чалавек, і думаю так яшчэ таму, што сапраўды павінна была пражыць яе жыццё.

У новай кінакарціне «Доўгая дарога да сябе» Ларыса Маляванная іграе ролю мастацтвазнаўцы Кастраміной.

# У РАСТАЛЫМ СНЕЗЕ ЗВОН РУЧАЯ

...Стары франтавік Шодзі Махмадаліеў не шукае ў жыцці нейкага прывілеяванага становішча. Жыве ён у горным таджыкскім кішлаку, многія гады працуе чабаном, мае дарослага сына — загадчыка магазіна, клапоціцца аб сваім напарніку — маладым глуханямым чабану Нуралі. Але ўсё, да чаго дакранаюцца яго рукі, аб чым баліць яго душа, прасякнута асаблівымі адносінамі чалавека, для якога мінулая вайна раз і назаўсёды вызначыла яго грамадзянскую пазіцыю, пазіцыю чалавека, які прывык жыць па адзінаму закону — сумленню.

Але вось здарылася бяда з сынам...

Каляровая мастацкая кінакарціна «У расталым снезе звон ручая» створана рэжысёрам Даўлатам Худаназаравым па сцэнарыю Гаўхара Сурманоза і Валерыя Тальвіка.

У галоўных ролях заняты Мухітдзін Салохаў, Шодзі Даўронаў, Шэр Абдулкайсаў, Адалат Зухурава, Нурула Абдулаеў, Валерый Катавіцкі, Сяргей Лясной і іншыя.

**В ТАЛОМ СНЕГЕ ЗВОН РУЧЬЯ**

...Старый фронтовик живет в горном таджикском кишлаке, многие годы работает чабаном, имеет взрослого сына — заведующего магазином, заботится о своем напарнике — молодом глухонемом чабане. И все, к чему он прикасается, пронизано особым отношением к делам человека, для которого минувшая война раз и навсегда определила его гражданскую позицию.

# НЕЧАКАНА-НЕГАДАНА

Раніцай аднаго з кастрычніцкіх дзён мінулага года жыхары аднаго з дамоў Алімпійскай вёскі не маглі трапіць... ва ўласныя кватэры. Ля пад'езда іх спынялі ветлівыя людзі з просьбай крыху пачакаць. Недалёка знаходзіліся работнікі міліцыі, стаялі аўтобусы, фургон для перавозкі мэблі, гарэлі пражэктары і наогул назіралася незвычайнае ажыўленне. Тым часам трое маладых людзей паспешліва выйшлі з пад'езда з рэчамі, пагрузілі іх у машыну і хутка ад'ехалі ад дома.

Не, не было кватэрнага крадзяжу — здымаўся эпізод новай каляровай лірычнай кінакамедыі «Нечакана-негадана», якую паставіў на кінастудыі «Масфільм» рэжысёр Генадзь Мелканян.

Калі надышоў кароткі перапынак і жыхары, што стаялі ля пад'езда, накіраваліся, нарэшце, да сваіх кватэр, з'явілася магчымасць пагутарыць з рэжысёрам-пастаноўшчыкам фільма. Малады кінематаграфіст знаёмы гледачам па невялікай лірычнай стужцы «Шаўкоўніца». І вось — першая поўнаметражная карціна.

— Вельмі хвалююся,— гаворыць рэжысёр,—як-ніяк упершыню стаўлю вялікі фільм і зноў адчуваю сябе дэбютантам. Мае таварышы па рабоце — Эміль Брагінскі, які напісаў сцэнарый карціны, акцёры Юрый Багатыроў, Галіна Польскіх, Аляксандр Шырвінт, Сяргей Мартынаў, Алег Анофрыеў, Ігар Ясуловіч, Таццяна Конюхава, Павел Віннік, маладая актрыса Таня Догілева...

Сюжэт камедыі просты. Маладая сціплая работніца ашчаднай касы Жана Капусціна нечакана становіцца наследніцай велізарнага багацця. Радавацца б ёй такому шчасцю, але... Пачынаюцца нудныя турботы, з'яўляюцца зайздроснікі і нават людзі, якія не супраць пажывіцца за чужы кошт.

Ілья Пятровіч, натарыус, прымае ўдзел у клопатах Жаны. І ўзнікшае пачуццё маладых людзей адзін да аднаго пад пагрозай: а раптам дзяўчына падумае, што ён небескарыслівы. Але ўсё заканчваецца добра. Каханне перамагае, няхай багаццем авалодваюць іншыя. Сапраўднае шчасце — не ў грошах.

**НЕЖДАННО-НЕГАДАННО**

Сюжет этой кинокомедии, снятой на «Мосфильме», незамысловат. Скромная молодая работница сберкассы неожиданно становится наследницей громадного состояния. Радоваться бы ей, но... начинаются нудные хлопоты, появляются завистники. Находятся и такие, кто не прочь поживиться за чужой счет...



Жана — арт. Таццяна Догілева, натарыус — арт. Юрый Багатыроў.

Жана — арт. Таццяна Догілева, мастак — арт. Сяргей Мартынаў.



*Харчовую праграму — у жыццё!*

# ДЛЯ ВАС, ПРАЦАЎНІКІ ВЁСКІ

Хлеб — наша багацце, аснова магутнасці краіны і дабрабыту нашага народа. Глыбокі, філасофскі расказ аб хлебе як духоўнай і маральнай каштоўнасці народа вядуць у дакументальным фільме **«Хлеб нашага агульнага поля»** акадэмік Д. С. Ліхачоў, настаўніца Н. В. Афанасьева і вядомы хлебароб, старшыня аднаго з украінскіх калгасаў Н. Н. Рабашапка.

Героі дакументальнай кінакарціны **«Табе даверана зямля»** — моладзь. Фільм расказвае аб працоўным укладзе маладых у выкананне Харчовай праграмы. У стужцы мы сустрэнемся з маладымі кіраўнікамі гаспадарак, на плечы якіх легла адказнасць за вырашэнне складаных гаспадарчых і выхаваўчых пытанняў, з маладымі працаўнікамі калгасаў і саўгасаў, а таксама з членамі студэнцкіх будаўнічых атрадаў.

Ударным фронтам Харчовай праграмы з'яўляецца жывёлагадоўля. Партыйныя і камсамольскія органы прыкладаюць шмат намаганняў, каб замацаваць у вёсцы моладзь і накіраваць яе энергію на развіццё гэтай галіны. З выпускнікоў сельскіх школ, якія выказалі жаданне працаваць у гэтай важнейшай галіне сельскагаспадарчай вытворчасці, ствараюцца маладзёжныя брыгады і атрады. Аб адным з такіх атрадаў маладых жывёлаводаў, які працуе ў Дубенскім раёне Татарыі, расказвае дакументальны кінанарыс **«Восень у Дубенках»**.

Пра нявырашаныя пытанні развіцця нашай сельскай гаспадаркі ідзе гаворка ў вострапубліцыстычнай дакументальнай кінакарціне **«Каб араты не стамляўся»**. Не без гумару і іроніі аўтары фільма разважаюць пра сельскагаспадарчыя машыны, пра іх недахоп і недасканаласць. Яны гавораць аб новых канструкцыях машын, якіх няма, але якія надзвычай патрэбны вёсцы. Аб трактарах і камбайнах, якія ёсць, але няспраўныя, і аб тых стратах часу і здароўя, якія адбываюцца з-за няспраўных машын.

Акрамя названых дакументальных фільмаў, працаўнікі сельскай гаспадаркі ўбачаць кінакарціны на вытворчыя тэмы. Гэта **«Насенняводства збожжавых у саўгасе «Емуртлінскі» Цюменскай вобласці»**, у якім расказваецца, як тут штогод атрымліваюць каля 12 тысяч тон высакаякаснага насення; **«Індустрыяльная тэхналогія вытворчасці бульбы»** — аб новай тэхніцы ў бульбаводстве, **«Вырошчванне бульбы пры малых нормах пасадкі»**, дзе гаворыцца аб сучаснай тэхналогіі гэтай культуры, **«Уборка ўраджаю і пасляўборачная дапрацоўка зерня кукурузы»**, **«Вырошчванне азімага рапса на зерне і зялёны корм»**, **«Падрыхтоўка і павышэнне кваліфікацыі сельскіх кадраў»**. Летняму працоўнаму семестру старшакласнікаў прысвечана стужка **«Ахова працы падлеткаў у сельскай гаспадарцы»**.

У жніўні выходзіць на экраны рэспублікі кіначасопіс **«Сельская гаспадарка»** № 3. У ім расказваецца аб тым, як доследна-вытворчая гаспадарка «Коранева» Маскоўскай вобласці штогод атрымлівае і рэалізуе больш як 3 тысячы тон насеннай бульбы, пра буйны міжгаспадарчы комплекс па адкорму бычкоў у Адэскай вобласці, які аб'ядноўвае 100 гаспадарак, аб вопыце вырошчвання высокіх ураджаяў цыбулі — да 230 цэнтнераў з гектара ў Валгаградскім саўгасе «Кузьмічэўскі».

Акрамя названых тут кінастужак, сельскія працаўнікі ўбачаць у жніўні і іншыя дакументальныя, навукова-папулярныя і вытворчыя фільмы.

# БАБУЛЯ-ГЕНЕРАЛ



Бабуля Анзірат — арт. Зайнаб Садрыева.

Каляровая шырокаэкранная ўзбекская мастацкая кінакарціна, створаная рэжысёрам Мэлісам Абзалавым па сцэнарыю Рыхсівоя Мухамеджанава, прасякнута пачуццём удзячнасці да людзей старэйшага пакалення, якія захавалі, нягледзячы на ўзрост, цікавасць да жыцця і актыўныя адносіны да людзей.

За строгі, хоць і справядлівы характар аднавяскоўцы празвалі Анзірат бабуляй-генералам. У суровыя гады прайшла яе маладосць, шмат добрых спраў зрабіла яна для свайго роднага кішлака. І калгас узначальвала, калі кулакі ў 30-м годзе зарубілі яе мужа-старшыню, і ад голаду людзей ратавала, адбіраючы хлеб у багатых. Складанае, цяжкае жыццё загартавала яе характар. Але за знешняй суровасцю і патрабавальнасцю відаць яе шчырае імкненне да справядлівасці, жаданне ўсюды і ва ўсім навесці парадак.

Не ўсе ў кішлаку любяць Анзірат, і прычына таго — актыўнае нежаданне «генерала» мірыцца з абыякавасцю, лянотай, скнапасцю і нядбайнасцю некаторых аднавяскоўцаў, якія іншы раз забываюць аб тым, якой дарагой цаной здабыта гэта шчаслівае жыццё.

Галоўныя ролі выконваюць Зайнаб Садрыева, Гані Агзамаў, Ікрама Балтаева, Хусан Шарыпаў, Абдураім Абдувахабаў, Джамал Юсупаў, Шахназа Хамраева і іншыя.

**БАБУШКА-ГЕНЕРАЛ**

«Генералом» односельчане прозвали бабушку Анзират за ее крутой, хоть и справедливый характер. Узбекская кинокартина рассказывает о том, как, несмотря на возраст, бабушка сохранила живой интерес к жизни и активное отношение к людям.

# КІНО—ШКОЛЕ

**Рэкамендацыі па выкарыстанню дакументальных і навукова-папулярных фільмаў у навучальна-выхаваўчай рабоце па праграмах верасня**

Вось і падыходзіць да канца школьнае лета. Мы зноў на парозе новага навучальнага года. Кіраўнікі школ і органаў народнай асветы за мінулы час нямала зрабілі, каб быў ён плённы. Кожны ж новы навучальны год — гэта новая прыступка, новы крок у авалоданні ведамі. Разам з тым гэта і новы крок у духоўным і фізічным развіцці нашых вучняў, у фарміраванні іх як асобы, як грамадзян вялікай краіны. Адсюль вынікае двуадзіная задача нашай школы — рыхтаваць адукаваных і ўсебакова развітых, ідэйна загартаваных людзей.

У гэтых адносінах у новым навучальным годзе перад школай ставяцца новыя задачы. Перш за ўсё трэба будзе павысіць якасць навучання і выхавання. Асаблівая ўвага ўдзяляецца ўсямернаму развіццю творчага патэнцыялу нашых дзяцей, нестандартнага мыслення і ўмення ўносіць творчую аснову ў любую справу. Таму ў рабоце школы асаблівае значэнне набываюць творчыя метады навучальнай і выхаваўчай работы.

Акрамя таго, ва ўмовах небывалага абвастрэння ідэалагічнай барацьбы паміж капіталізмам і сацыялізмам новыя задачы ставяцца перад школай у ідэалагічнай загартоўцы вучняў, у развіцці іх ідэйнай перакананасці і ўмення процістаяць розным чужым уплывам.

У ажыццяўленні ўсіх гэтых вялікіх і адказных задач добрай падмогай школе можа з'явіцца кіно — самае масавае і самае любімае дзецьмі мастацтва.

Неўзабаве пачнуцца традыцыйныя жнівеньскія нарады. Разам з іншымі пытаннямі актывізацыі навучальнай і выхаваўчай работы настаўнікі абмяркуюць і меры па яшчэ больш шырокаму і эфектыўнаму выкарыстанню ў школе кіно, якое стала ў нашы дні магутным сродкам фарміравання асобы.

Сёлета мы прадоўжым нашу рубрыку «Кіно — школе». Рэкамендацыі аб выкарыстанні кіно ў навучальна-выхаваўчай рабоце мы будзем друкаваць за месяц наперад, каб настаўнікі мелі магчымасць падрыхтаваць неабходныя стужкі, прадумаць методыку кіназаняткаў. Так, у гэтым, жнівеньскім нумары даюцца рэкамендацыі па праграмах верасня.

Пераходзячы да канкрэтных рэкамендацый, перш за ўсё трэба назваць фільмы пра У. І. Леніна. У яго жыцці і дзейнасці адлюстраваліся гісторыя і слаўныя справы нашай партыі, усяго савецкага народа. Гэта дакументальныя кінакарціны «Ленін. Старонкі біяграфіі» (5 ч.), «Жывы Ленін» (3 ч.), дзе сабраны кінакадры, знятыя пры жыцці правадыра, а таксама навукова-папулярныя фільмы «Час вялікіх выпрабаванняў» (2 ч.) — пра барацьбу У. І. Леніна супраць апартуністаў II Інтэрнацыянала, «На чале дзяржавы Саветаў» (3 ч.) — аб дзейнасці У. І. Леніна па ўмацаванню першай дзяржавы рабочых і сялян.

Названыя фільмы або іх фрагменты могуць быць выкарыстаны як на ўроках грамадазнаўства, гісторыі, так і на пазакласных мерапрыемствах.

Вучням цікава будзе таксама паглядзець дакументальныя фільмы «Старонкі вялікага жыцця» (3 ч.) — пра жыццё і дзейнасць К. Маркса і яго дружбу з Ф. Энгельсам, «Мысліцель і рэвалюцыянер» (2 ч.) — пра Ф. Энгельса, яго навуковую і рэвалюцыйную дзейнасць. Цікавая і навукова-папулярная стужка «Час, прастора, рух» (1 ч.), у якой робіцца спроба напоўніць канкрэтным зместам абстрактныя філасофскія катэгорыі.

На ўроках гісторыі дзесяцікласнікі вывучаюць матэрыялы аб гістарычным подзвігу савецкага народа, які выратаваў свет ад фашызму. Дакументальныя фільмы не толькі данясуць да вучняў прыклады найвышэйшага гераізму і мужнасці, але і раскрыюць перад імі вытокі сілы і стойкасці савецкага народа, яго арміі, сутнасць савецкага патрыятызму.

Дакументальная кінакарціна «22 чэрвеня 1941 г.» (5 ч.) уваскрашае падзеі першага дня Вялікай Айчыннай вайны. Фільм «Застава Кіжаватава» (1 ч.) расказвае пра гераізм байцоў пагранзаставы, якая прыняла першы ўдар ворага 22 чэрвеня 1941 г. у 4 гадзіны раніцы, «Я — крэпасць, вяду бой» (2 ч.) — пра абаронцаў Брэсцкай цытадэлі, «Імёны іх неўміручыя» (2 ч.) — расказ пра абаронцаў Ленінграда, «Магілёў. Дні і ночы мужнасці» (6 ч.), «Подзвіг Масквы» (2 ч.), «Адэса — горад-герой» (2 ч.), «Першы залп» (1 ч.) — пра першы залп «кацюш» пад Оршай у чэрвені 1941 года, «За намі была Масква» (2 ч.) — пра дывізію генерала Панфілава, якая абараняла сталіцу, «Не толькі хлапчукі» (2 ч.) — пра дзяцей, якія аддалі жыццё за Радзіму ў Вялікай Айчыннай вайне.

Праграма па рускай літаратуры ў верасні прадугледжвае вывучэнне творчасці М. Горкага. Розныя перыяды яго жыцця і творчасці паказаны ў многіх кінастужках. Так пра жыццё пісьменніка ў Казані расказвае фільм «Яго універсітэты» (2 ч.). Дакументальная стужка «А. М. Горкі ў Самары» (1 ч.) паказвае перыяд жыцця пісьменніка з лютага 1895 па май 1896 г. Сустрэча А. М. Горкага з А. П. Чэхавым узнаўляецца ў навукова-папулярнай кінакарціне «Сустрэча ў Ялце» (2 ч.). «Старонкі вялікай дружбы» (3 ч.) — так называецца навукова-папулярны фільм пра сустрэчы У. І. Леніна з А. М. Горкім у 1917—1921 гадах.

Пра апошнія гады жыцця пісьменніка расказвае навукова-папулярная кінакарціна «Сустрэчы з Горкім» (5 ч.).

Асаблівае месца займае навукова-папулярная стужка «Радкі Горкага» (1 ч.), у якой раскрываецца творчая лабараторыя вялікага майстра слова.

Вялікую дапамогу могуць аказаць фільмы ў рабоце школы з бацькамі. На занятках бацькоўскіх універсітэтаў, лекторыяў карысна будзе пагледзець навукова-папулярныя фільмы «Чужыя ў горадзе?» (2 ч.) — аб праблемах вольнага часу падлеткаў, «На тым баку дабра» (2 ч.), «Чалавек, якога трэба зразумець» (1 ч.), «Падлетак» (6 ч.), «Небяспечны ўзрост» (3 ч.), «Хлапчуку 14 гадоў» (2 ч.). Працоўнай дзейнасці старэйшых школьнікаў у час летніх канікул прысвечана дакументальная стужка «Ветразям патрэбен вецер».

І апошняя парада. Каб кіно ў школе магло поўнасцю праявіць свае вялікія пазнавальныя і выхаваўчыя магчымасці, зусім неабходна выкарыстоўваць яго не час ад часу, а сістэматычна.

# ЗАРУБЕЖНЫЯ ФІЛЬМЫ

Балгарскі рэжысёр Якім Якімаў паставіў па сцэнарыю Любаміра Янава кінакарціну **«СЯБРЫ НА ВЕЧАР»**.

Аднаму з герояў фільма — Пепі нечакана прыходзіць у галаву думка выпрабаваць сілу старой дружбы не зусім звычайным спосабам. Час набліжаўся да паўночы, калі ён абзваніў пецярых сваіх сяброў дзяцінства і без тлумачэння запрасіў іх да сябе ў госці. З многімі з іх ён не бачыўся ўжо даўно.

Урэшце-рэшт на імправізаваную вячэру збіраюцца ўсе, але ...разам з жонкамі. За плячыма ў кожнага немалы жыццёвы вопыт, страты і здабыткі, якія зрабілі іх сталымі людзьмі. Сустрэча для іх становіцца вяртаннем у дзіцячыя і юнацкія гады, вяртаннем, поўным весялосці, смеху і, вядома, тугі. У іх узнікае жаданне на час пазбавіцца ад павэжнасці і вярнуць сабе часцінку дзяцінства. І — што самае галоўнае — у душы ў кожнага ўзнікае радаснае пачуццё ад таго, што старая дружба жыва і моцная.

У фільме зняліся Віялета Донева, Весялін Вылкаў, Марыя Каварджыкава, Святаслаў Пееў, Петр Петраў, Мікалай Калчэў, Анета Сацірава, Іван Грыгораў, Банка Банкаў і іншыя.

На кінастудыі «Барандаў» рэжысёр Атакар Фука стварыў кінастужку **«ПРАДПРЫЕМЛІВАЯ ЭВА»**. Гэта кінакамедыя высмейвае мяшчанскае імкненне да дастатку любой цаной, што часта ставіць людзей у недарэчнае становішча.

...Калі пана Новака назначылі начальнікам аддзела навукова-даследчага інстытута, яго жонка вырашыла пакінуць цырульню і адкрыць салон прычосак дома. Але паколькі такая практыка не вельмі дазваляецца законам, давядзецца ісці на рызыку. Матэрыяльнае становішча іх сям'і сапраўды крыху палепшылася. Але пані Новакава ў пагоні за заработкам не паспявае ўдзяляць часу сям'і і гаспадарцы. З пяшчотнай і клапатлівай жонкі Эва ператварылася ў дзелавую даму. Яна шукае ўсё новыя і новыя знаёмствы, няспынна нешта прадпрымае, водзіць мужа на прыёмы, у госці да «патрэбных» людзей, вучыць яго «жыць»...

Нягледзячы ні на што, Новак працягваў быць узорам цярплівасці і пакорнасці. Да таго часу, пакуль яны з Эвай не апынуліся разам у... міліцыі. Праўда, пакуль яшчэ ў выніку непаразумення. Па збегу акалічнасцей ў тое ж аддзяленне міліцыі трапляе іх старэйшая дачка, якая звязалася з дрэннай кампаніяй сваіх равеснікаў. Усё гэта і прымусіла Эву адумацца, а Новака — успомніць аб тым, што ён усё ж мужчына, галава сям'і, і ўзяць руль кіравання ў свае рукі.

Ролі выканалі Йорга Котрбава, Петр Костка, Магда Рэйфава, Магда Бічыкава, Слаўка Будзінава, Зіта Кабатава, Францішэк Філіпоўскі і іншыя.

**«АПОШНЯЯ НАДЗЕЯ»**— так называец-

ца кінакарціна в'етнамскага рэжысёра Чан Фыонга знятая па сцэнарыю Чан Хаанг Баця. У ёй расказваецца сучасная гісторыя сямейнага жыцця журналісткі Ван. Пасля працяглай камандзіроўкі яна вяртаецца дамоў. Муж, які працуе дырэктарам завода, за час яе адсутнасці атрымаў новую кватэру і абставіў яе дарагой мэбляй. Ван прабуе высветліць, на якія грошы Донг набыў усё гэта. Выпадкова яна даведваецца, што мэбля ў яе кватэры куплена на крадзеныя грошы і што яе мужа могуць судзіць. Донгу ўдаецца пазбегнуць пакарання, але Ван пакідае яго.

У фільме зняліся Ньы Куінь, Лан, Тат Бінь, Хаанг Лонг, Чан Вінь.

На кінастудыі «Дыялог» венгерскі рэжысёр Дзьёрдзь Палашці (аўтары сцэнарыя Агнеш Балінт і Дзьёрдзь Палашці) паставіў лірычную кінакамедыю **«НЕСПАКОЙНАЯ СЯМЕЙКА»** аб тым, як жыццярадаснасць і аптымізм дапамагаюць у складаных абставінах.

...У старым будапешцкім доме жывуць побач дзве сям'і — ціхая, якая ставіць вышэй за ўсё матэрыяльны дастатак і спакой, і вясёлая, якая стараецца ахапіць усё, што робіць жыццё захапляючым і поўным. Але двух пакояў на ўсе захапленні ім не хапае. Мара аб уласным, асобным доме, дзе, нарэшце, усім хопіць месца — і дарослым, і дзецям, і сябрам, і жывёлам,— запаветная, але пакуль, на жаль, неажыццявімая мара ўсёй сям'і. Але важней тое, што ў гэтай сям'і пануе атмасфера любві і ўзаемаразумення.

Шмат забаўнага, вясёлага і сумнага адбываецца ў жыцці гэтай неспакойнай, але шчаслівай сям'і.

У фільме зняліся Бела Эрньеі, Андрэа Драхота, Аніта Абель, Янаш Сані, Ласла Тот, Эржы Матэ, Ласла Дзьёрдзь, Моніка Ульман.

На кінастудыі мультыплікацыйных фільмаў «ДЭФА» ў ГДР рэжысёр Гюнтэр Рэтц і сцэнарыст Ханелорэ Хольц стварылі фільм **«ЛЯТАЮЧЫ МЛЫН»** па аднайменнай кнізе Гюнтэра Фойстэля.

У гэтай лялечнай кінакарціне, як і звычайна ў казцы, расказваецца аб падзеях неймаверных і фантастычных.

...Школьніцу Олі, дзяўчынку гультаяватую і грубую, перавялі ў наступны клас умоўна. Расззлаваўшыся на ўвесь свет і вырашыўшы кінуць школу, Олі пакідае дом і накіроўваецца ў падарожжа са сваім верным сябрам — сабакам Пінкусам. Па дарозе да сяброў далучаецца выхавальны конь Аляксандр, які пастаянна паўтарае, што ён славуты чэмпіён, пераможца на скачках.

Спачатку яны трапляюць у дом наіўнага, дзівакаватага Прафесара і яго аканомкі-кракадзіліхі Зузі. Госці без сарамлівасці пачалі гаспадарнічаць у доме. Самым цікавым месцам аказалася лабараторыя Прафесара: тут было шмат рэчаў дзіўных і загадкавых. Не падумаўшы аб выніках, Олі і Аляксандр напоўнілі рэактар палівам, і казачны домік з усімі іх жыхарамі, быццам касмічная ракета, узляцеў у космас.

За кароткі час нашы касманаўты пабывалі на трох загадкавых планетах, дзе іх чакалі незвычайныя і небяспечныя прыгоды.

Югаслаўскі рэжысёр Аляксандр Петкавіч зняў па сцэнарыю Данка Паповіча кінастужку **«АБ'ЯЎЛЕН ПА-ЗА ЗАКОНАМ»**.

Дзеянне яе адбываецца неўзабаве пасля заканчэння першай сусветнай вайны. У фільме расказваецца аб лёсе двух сяброў-салдат, якія вярнуліся дамоў. Адзін з іх становіцца жандарам. другі— гайдуком.

Спачатку Топалац, які пайшоў служыць у жандармерыю, поўны добрых намераў і, кіруючыся пачуццём абавязку ў адносінах да загінуўшых таварышаў, рашае змагацца супраць несправядлівасці. Ён складае спіс мясцовых багацеяў, якія нажыліся на вайне несумленным шляхам. Са здзіўленнем Топалац выяўляе, што гэта зусім не цікавіць шэфа, больш таго, той настойліва раіць яму не варушыць мінулае...

Кондзіч наймаецца на работу да памешчыка. Разбагацеўшы на спекуляцыях у час вайны, той паводзіць сябе нахабна і подла, адкрыта ашуквае нанятых сялян, не даплачваючы ім грошы за работу. Абураны гэтым, Кондзіч збівае памешчыка і трапляе ў турму.

«Справа» Івана Кондзіча паступае да капітана Топалаца. Не вагаючыся, той рашае дапамагчы старому сябру. Але аказваецца бяссільным. Раніцай да паўсмерці збіты зняволены ўцякае з турмы. Улады аб'яўляюць яго гайдуком — чалавекам па-за законам, якога беспакарана можа забіць кожны.

Пастунова вестка пра гайдука распаўсюджваецца па ўсёй акрузе. Багацеі баяцца яго помсты, і жандары палююць за ім, як за зверам, а кіраваць яго лоўляй, па іроніі лёсу, павінен капітан Топалац. Выявіўшы, дзе хаваецца Кондзіч, жандары робяць засаду. Кондзіч прабуе ўцячы, але Топалац праследуе яго і забівае.

Ролі выканалі Светазар Цветкавіч, Браніслаў Лечыч, Даніца Максімавіч, Паўле Вуйісіч, Душан Янічыевіч, Уладан Жыўкавіч, Велька Мандзіч, Міралюб Леша.

**«ПАРТРЭТ ЗАМУЖНЯЙ ЖАНЧЫНЫ»**— кінакарціна мексіканскага рэжысёра Альберта Бахоркеса, пастаўленая ім па ўласнаму сцэнарыю.

Ірэне і Гільерма — тыповыя прадстаўнікі сярэдняга класа, якія валодаюць усім, чым належыць валодаць у іх узросце і становішчы: у іх двое дзяцей, кватэра, машына і, як абодва ўпэўнены, гарачае каханне адзін да аднаго. Вядома, ёсць свае праблемы — машына барахліць, служанка патрабуе павысіць ёй плату... Але Гільерма — добры муж, клапоціцца аб доме, не здраджвае жонцы. Аднак у душы маладой жанчыны ўсё ўзмацняецца незразумелы для яе самой разлад.

Спачатку ёй здаецца, што прычына тоіцца ў самалюбівым і патрабавальным характары мужа. Ён не жадае слухаць расказаў жонкі аб яе студэнцкіх справах. А ў Ірэне няма сяброў, з якімі яна магла б падзяліцца сваімі клопатамі. І яна думае, што такога сябра можа знайсці ў асобе сімпатычнага калегі па універсітэту Хорхе. Але першы ж візіт да яго ў дом канчаецца здрадай мужу. З гэтага моманту тэмп фільма нарастае. Па дарозе ад Хорхе дадому ў Ірэне ламаецца машына. Яна не можа растлумачыць мужу, чаму апынулася ў гэтым раёне горада, калі ён прыязджае ёй на дапамогу. Яе падман раскрываецца. Гільерма жорстка збівае яе. Але і цяпер яна не рашылася б на разрыў, калі б Гільерма не выгнаў яе з дому. У Ірэне наперадзе барацьба за дзяцей, шлюбаразводны працэс, суд. Яна паступае на работу, дзе набывае новых сяброўак.

Фінал фільма трагічны і нечаканы. Ірэне, якая толькі што выйграла шлюбаразводны працэс, купляе цацкі для дзяцей і накіроўваецца па вялікай пустэльнай плошчы да сваёй машыны. Але тут яе даганяе малады мужчына, які наносіць ёй удар нажом...

У фільме зняліся Альма Мурыэль, Гансала Вега, Эрнеста Гомес Крус, Патрысія Рэес Эспіндола, Луіс Марыо Кірос, Рэбека Рывера Бустос.

Выходзіць на нашы экраны і новая кінастужка італьянскіх рэжысёраў Паола Віладжо і Неры Парэнці, пастаўленая па кнізе Паола Віладжо. Называецца яна **«ФАНТОЦЫ СУПРАЦЬ УСІХ»**.

Адзін з аўтараў сцэнарыя, рэжысёр фільма і выканаўца ролі Фантоцы Паола Віладжо знаём савецкім гледачам па камедыі «Сіньёр Рабінзон», у якой ён сыграў галоўную ролю. Цікава, што будучы адным з папулярных кінаакцёраў Італіі, Віладжо — не прафесіянальны артыст, а пісьменнік. Шырокую вядомасць у Італіі набылі яго іранічныя раманы пра дробнага служачага Фантоцы, якія сталі асновай для серыі фільмаў аб ім.

Сутнасць гэтай гратэскавай камедыі складаюць падзеі, здавалася б, выдуманыя, нават фантастычныя, неймаверныя. Але паказан у іх зусім рэальны тып абывацеля.

Ролі выканалі Паола Віладжо, Джыджы Рэдэр, Мілена Вукоціч, Каміла Мілі, Поль Мюлер, Джузепе Анатрэлі.

У 1959 годзе на Маскоўскім міжнародным кінафестывалі быў паказан фільм «Хірасіма — любоў мая», які прынёс яго пастаноўшчыку, рэжысёру-дакументалісту, дэбютанту ў іграым кіно Алену Рэнэ сусветную вядомасць. За дваццаць гадоў французскі рэжысёр паставіў рад мастацкіх фільмаў, адзначаных глыбінёй зместу і складанасцю формы. Усе яны станавіліся падзеяй не толькі французскага, але і сусветнага экрана. Гэта датычыць і яго карціны **«МОЙ АМЕРЫКАНСКІ ДЗЯДЗЕЧКА»**, якая выходзіць на нашы экраны.

У гэтым эксперыментальным па форме фільме Рэнэ выкарыстоўвае вопыт работы ў дакументальным кіно, уводзячы ў сюжэт мастацкай стужкі навукова-папулярныя кавалкі, умела спалучаючы два віды кінематографа.

Яго героі бачаць трагічныя супярэчнасці капіталістычнага грамадства, несправядлівасць, насілле, якія пануюць у ім. А яны б хацелі бачыць свет без насілля, без войнаў. У сваім імкненні да такога свету яны блізкія нам, і таму нам цікава іх выслухаць.

У фільме зняліся Жэрар Дэпардзье, Ніколь Гарсіа, Ражэ П'ер, Нэлі Баржэ, П'ер Ардзіці, Жэрар Дар'е, Філіп Лодэнбах, Мары Дзюбуа і іншыя.

●

**Одному из героев болгарского фильма «ДРУЗЬЯ НА ВЕЧЕР» неожиданно приходит в голову мысль испытать силу старой дружбы не совсем обычным способом. Время близилось к полуночи, когда он обзвонил пятерых своих друзей детства и без объяснений пригласил их к себе в гости. Со многими из них он не виделся уже давно.**

**И вот на импровизированный ужин собираются все, но... вместе с женами. Друзья вспомнили и детство, и юношеские годы...**

●

**Чехословацкая кинокомедия «ПРЕДПРИИМЧИВАЯ ЭВА» высмеивает обывательское стремление к благополучию любой ценой, что часто ставит людей в нелепое положение.**

**...Когда пана Новака назначили начальником отдела научно-исследовательского института, его жена решила оставить работу в парикмахерской и открыть**

